# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

№ 8 ЛІПЕНЬ - СЬНЕЖАНЬ 1999 г.

## У НУМАРЫ:



## "Бог, Гонар, Айчына"

*"Бог, Гонар, Айчына", -- дэвіз беларускай (ліцьвінскай) шляхты, пад якім, яна жыла, змагалася і памірала.*

**Толькі ў хаце шляхочай з'яўляўся хлапчына,
І ў люльцы яшчэ немаўля калыхалі,
А вечныя словы: "Бог, Гонар, Айчына",--
Што раз і што дзень над калыскай гучалі.**

**Як рос, паражыў шмат крывавых гадзінаў,
Пагоня бацькоў і дзядоў падымала,
І грозным наказам: "Бог, Гонар, Айчына",--
Яму з-пад харугваў-сцягоў далятала.**

**А сеў на каня, развітаўся з дзяўчынай,
Нялёгкая ратная служба чакала,
Каб помніў давеку: "Бог, Гонар, Айчына",--
Каханая ціха яму прашаптала.**

* * *

**...Татарскі набег, кроў цячэ ручаінай,
Пад вязняў нагамі дарога пыліць,
Ды чуецца раптам: "Бог, Гонар, Айчына!"
Ліцьвінская шляхта ў адсечу ляціць...**

**...Звярыны ашчэр пад сяброўскай лічынай --
Маскоўцаў арда паланіла наш край,
Ды ў сэрцы ўскіпае: "Бог, Гонар, Айчына"--
На смертную сечу, шляхецтва, ставай...**

**Нясвіжская, менская, лідская шляхта,
З мястэчак, засценкаў і вёсак глухіх,
З Бярэсця, Гародні, з палацаў і хатаў
На бітву ўздымала з малых да старых.**

**І клала галовы на поле і плаху,
За край свой гарачай крывёю сцякла,
Ні жалю не знала, не ведала страху,
"Бог, Гонар, Айчына" ў душы берагла.**

* * *

**Паўстань жа, ліцьвінская шляхта, сягоньня,
Бо злыдні тваю захапілі краіну,
І хай нам званіцы ізноўку зазвоняць
Адвечным набатам: "Бог, Гонар, Айчына".**

**Станіслаў Суднік.**

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНАЯ ГІСТАРЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі ў Менску выйшаў 5-ты том “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”. Наклад 10.000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская навука” ў Менску выйшаў 2-гі том кнігі “Археалогія Беларусі”. Наклад 1.300 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская навука” ў Менску выйшаў 18-ты том “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы”. Наклад 500 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Наша Будучыня” ў Вільні выйшла кніга Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі. 862 - 1918”. Наклад 5.000 асобнікаў.**




**У выдавецтвах “Лекцыя” і “Бацькаўшчына” ў Менску выйшла кніга Кастуся Тарасава “Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей”. Наклад 3.000 асобнікаў.**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

№ 8 ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 1999 г.

## Шаноўнае спадарства!

**Вітаем вас са старонак 8-га нумара часопіса "Лідскі летапісец". Як вы, напэўна, ужо заўважылі, мы некалькі змянілі дызайн часопіса, увялі тытульную старонку, выдзелілі асобна вокладку. Агульны аб'ём павялічыўся на чатыры старонкі. Гэтым нумарам мы завяршаем першы этап выдання нашага часопіса-этап, можна сказаць, станаўлення. На гэтым этапе была выпрацавана канцэпцыя часопіса. Мы дабіліся рэгістрацыі ў Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь. Часопіс пачаў афіцыйна прадавацца. Сёння яго можна набыць у лідскай кнігарні "Кніжны свет", а таксама - у шапіках "Белсаюздруку" г. Ліды, у сядзібах БНФ і ТБМ г. Менска. Мы спадзяёмся ў бліжэйшы час адкрыць падпіску на наш часопіс. У 2000-м годзе часопіс будзе выходзіць адзін раз на квартал. Далей мы спадзяёмся выдаваць яго часцей.**

**А зараз мы хацелі б адказаць на пытанне, для чаго ўсе гэтыя высілкі, каму патрэбна гэтае нашае капанне ў гісторыі невялікага кавалачка Беларусі: Ліды, Лідскага раёна ды бліжніх ваколіц. Каму гэта цікава і каму ад гэтага карысць?**

**Паводле перапісу 1999 года на Беларусі жыве 8.159.000 беларусаў, з якіх роднай назвалі беларускую мову 6.690.380 чалавек, 339.480 чалавек іншых нацыянальнасцяў назвалі сваёй роднай моваю беларускую. Разам гэта 7.029.860 чалавек. Гэта больш, чым уся Прыбалтыка. Гэта больш, чым Фінляндыя, чым насельніцтва многіх еўрапейскіх краін. Назваўшы роднай моваю беларускую, гэтыя людзі ўсвядомілі сябе беларусамі, беларускім народам, беларускай нацыяй. Беларускі народ, як і іншыя народы, мае шматтысячагадовую гісторыю, і ён, як і іншыя народы, ведае яе павярхоўна. Але ўсё больш і больш з'яўляецца маладых, якія жадаюць ведаць гісторыю глыбей, і ведаць не паводле казак і легендаў, а на грунце навуковых звестак і фактаў. Моладзь імкнецца ведаць і вялікую гісторыю ўсёй нашай краіны і малую гісторыю асобных мясцін, паселішч, лясоў і рэчак. Вялікую гісторыю даследуюць, як правіла, прафесійныя гісторыкі, малую -- краязнаўцы. І, як немагчыма напісаць гісторыю краіны без гісторыі асобных яе частак, яе гарадоў і вёсак, так і немагчыма напісаць гісторыю горада, не ўвязваючы яе ў агульную тканіну гісторыі краіны. Наш часопіс і адлюстроўвае гэтую повязь гісторыі Ліды і Лідчыны з гісторыяй усёй Беларусі.**

**Мы ніколі не будзем мець шматтысячных накладаў, але ніколі не акажамся непатрэбнымі, бо цікавасць да мінулага -- вечная ўласцівасць чалавецтва, як жаданне ведаць будучыню -- вечная мара чалавецтва. Мы расказваем пра мінулае, а пра будучыню нашага народа мяркуйце самі, бо з такім вялікім мінулым мы проста абавязаны мець вялікую будучыню.**



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
*Валеры Сліўкін,*
*старшы навуковы супрацоўнік Лідскага краязнаўчага музея, кандыдат геаграфічных навук*

РЭДАКТАР
*Станіслаў Суднік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
*231300,г. Ліда-2, п/с 7*

Наклад 400 асобнікаў

Часопіс надрукаваны ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская - 23.

Кошт вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

Заказ № 3657

# КРОНіКА ЛіДЫ





**1 верасня ў Лідзе пачала працаваць Школа мастацтваў**



***У верасні прайшоў выпрабаванні першы камбайн, сабраны на фірме "Лідааграпраммаш"***

**30 верасня пачала працаваць новая АЗС у Бярозаўцы**





***2 кастрычніка каманда гарадошнікаў Бярозаўскага шклозавода "Нёман" заваявала Кубак Рэспублікі Беларусь і Кубак Беларускага Тэлебачання***

**16 кастрычніка ў Лідзе памёр міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі, міжнародны арбітр ФІДЭ па шахматнай кампазіцыі, шматкратны чэмпіён СССР і Беларусі па шахматнай кампазіцыі, чэмпіён Ліды па шахматах, прызёр міжнародных конкурсаў, магістр філасофіі Вацлаў Яўгенавіч Гебельт**









***У кастрычніку ў Лідзе выйшла кніга вершаў Станіслава Судніка "Мой Грунвальд"***




**У лістападзе ў Лідзе выйшла кніга вершаў лідскай паэтэсы Святланы Цішук "На крылах белай вароны"**



Бярозаўскія НАВІНЫ

ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧОЎ

І Ў НАС ГЕКСАГЕН ШУКАЛІ

ПАЧАЛА ПРАЦАВАЦЬ НОВАЯ АЗС

Да ведама ўсіх

***14 снежня выйшаў першы нумар Бярозаўскай гарадской незалежнай газеты "Бярозаўскія навіны"***

# Кроніка айкумены

## Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень - снежань

**1399 год, 12 жніўня.** Параза войска Вялікага князя Вітаўта на рацэ Ворскла ад татарскіх туменаў Цемір-Кутлуя.

**1569 год, 1 ліпеня.** Заключана Люблінская вунія, створана фэдэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая.

**1654 год, верасень.** У Лідскім павеце сфармаваны 4 харугвы: гусарская, рэйтарская, казацкая і пешая для ваенных дзеянняў у пачаўшайся руска-ліцьвінскай вайне.

**1659 год, снежань.** Расейскае 30-тысячнае войска пад камандаваннем Івана Хаванскага, перайшоўшы Нёман каля Беліцы, падступіла да Ліды. Замак узяты штурмам. Горад спалены, у тым ліку і царква Святога Спаса, царква Прычыстай Багародзіцы захавалася. Спалены і разрабаваны: Беліца, Мыто, Дворышча, Ваверка. Увесь Лідскі павет моцна пацярпеў .

**1694 год, 5 ліпеня.** Суд кампрамісны ў складзе Аляксандра Яна Масевіча – ваяводы мсціслаўскага, Казіміра Францкевіча Радзімінскага – падскарбія надворнага ВКЛ і старасты лідскага спрэчную відугораўскую зямлю, захопленую барцянскімі баярамі, прызнаў уласнасцю нашчадкаў Марціна Крупеля.

**1729 год, 7 верасня.** Вялікі князь Аўгуст II пацвердзіў Лідзе магдэбургскае права. “А яўрэі ў горадзе Лідзе, карыстаючыся павелічэннем пратэкцыі замкавага двара, адцясняюць мяшчан і прыбыткі з тавараў і кірмашоў сабе прысвоілі і прыезджых пабочных людзей з рэчамі на продаж і таварамі зусім адцяснілі і такім чынам вялікія страты ў прыбытках ратушы зрабілі ... загадваем, каб кожны з іх з кожнага гандлю гандлёвы збор гораду і падаткі з крамаў і мясцовых прылаўкаў кожны год здавалі ў ратушу. І каб хрысціян ад забою жывёлы не адхілялі, але і самі з дазволу войта і бурмістра забоем жывёлы займаліся, а войту ад кожнай ... жывёліны з кожнага забою давалі лапаткавае, і каб не перашкаджалі гандляваць соллю мяшчанам і пабочным ...мяшчан вызваляем навекі ад земляных работ пры насыпу каля замкавага млына. Для вымярэння збожавых неабходна мець ... у ратушы бочку пламбаваную аб’ёмам 72 гарнцы і забараняем усім мяшчанам і яўрэям хаваць дома бочкі, паўбочкі, чэцверці, васьмушкі і мераць таемна міма гарадской меры пад пагрозаю штрафу ... дваццаці літоўскіх коп і забараняем гэтыя прыватныя меры”.



Вялікі князь Аўгуст II

**1744 год, 12 лістапада.** Вялікі князь Аўгуст III пацвердзіў гораду Лідзе ўсе, раней напісаныя, прывілеі.



Вялікі князь Аўгуст III

**1784 год, 8 лістапада.** У маёнтку Шаўры, Лідскага павету (зараз Воранаўскі раён) нарадзіўся Нарбут Тэадор (Тодар, Фёдар Яўхімавіч) гісторык, археолаг, літаратар, перакладчык, краязнавец, этнограф, бібліяфіл, калекцыянер, аўтар дзевяцітомавай “Гісторыі літоўскага народа” (1835-1841).



Тодар Нарбут

**1784 год, верасень.** Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі праехаў праз Беліцу на сойм у Горадню.

**1794 год. 20 снежня.** Князь Мікалай Рапнін выдаў у

Горадні ад імя Кацярыны II універсал пра падзел ВКЛ на тры часткі. Лідскі павет аднесены да Віленскай губерні.

**1834 год.** Пачатак усталявання праваслаўных іканастасаў ва ўніяцкіх цэрквах. Першай пад нутраную перабудову падпала Голдаўская царква.

**1834 год, 2 верасня.** Закрыты Лідскі піярскі кляштар і калегіюм, адкрыта 5-класная дваранская павятовая навучальня.



Царква ў Радзівонішках

**1864 год.** Адкрыты Беліцкая, Ганчарская, Дзікушская, Зблянская, Тарноўская народныя навучальні. Першая аднакласная царкоўна-прыходская школа з'явілася ў Малым Мажэйкаве.

Адкрыта Лідская прыходская двухкласная навучальня, законанастаўнікам прызначаны І.І.Каяловіч.

**1869 год, верасень.** Асвечана царква Успення Божай Маці, пабудаваная ў Радзівонішках.

**1884 год.** У Ольжаве, Далекіх і Радзівонішках адкрыты царкоўна-прыходскія школы. У Воўкаўцах ад Жыжамскага, у Мастаўлянах і Папямонцах ад Зблянскага прыходаў адкрыты школы пісьменства.

**1884 год, 30 снежня.** Адкрыты рух па чыгунцы Вільня -Ліда-Лунінец. *"Па мосце з боку Вільні прайшоў праз Ліду першы цягнік".*

**1894 год, верасень.** У Зблянах адкрыта аднакласная царкоўна-прыходская школа.

У Карпейках і Масявічах ад Ганчарскага прыходу, у Агародніках Маламажэйкаўскага і ў Філонаўцах Дакудаўскага прыходаў адкрыты школы пісьменства.

**1899 год.** У Скаменным Бары ад Дакудаўскага і ў Ходараўцах ад Дзікушскага прыходаў адкрыты школы пісьменства.

**Канец 19-га стагодзя.** У Лідзе жыло 9500 чалавек, плошча горада складала 160 дзесяцін, 14 вуліц, 7 завулкаў, 4 плошчы. 8 вуліц і завулкі былі брукаваныя (2424 сажні), астатнія не. 708 дамоў, 200 двухпавярховых цагляных. Сярэдняя колькасць жыхароў у цэнтры – 15 чалавек на дом, на ўскраінах па 9. Двароў у большасці дамоў не было, у 272 дамах былі надворныя туалеты, памыйныя ямы ў двух дамах. 56 студняў, добрая вада -- у 41- й, 2 лазні.

Павятовая і прыходская навучальні, народная і яўрэйская двухкласныя школы, пансіён для дзяўчат-яўрэек. 10 фабрык і заводаў: дзве тытунёвыя, адна коркавая, дзве гільзавыя, два піваварныя, тры шыпучых вод, друкарня – усё гэта невялікія майстэрні, размешчаныя пад адной страхой з жылым домам. Бойня, 4 гарбарныя заводы, 3 бальніцы на 45 ложкаў: гарадская на 20, яўрэйская і турэмная. Аптэка. На Лідзейцы гарадскі водны млын і млыновая плаціна. 2 цагляныя заводы.

**1904 год.** У Лідзе 14 заводаў і фабрык, 400 рабочых, аб'ём вытворчасці – 1200 тысяч рублёў. 170 рамесных майстэрняў, 204 рамеснікі, 4 кірмашы на год, продаж жывёлы і абарот 100 тысяч рублёў. Штотыднёвы базар. Банкірская і натарыяльная канторы, 10 страхавых агентаў, 13 гасцёўняў і нумароў, 24 шынкі, харчэўні і чайныя. 25 вуліц і завулкаў, 2 плошчы. 1000 жылых будынкаў, 275 каменных і 725 драўляных, 20 крытых жалезам, 680 – дрэвам, 300 - чарапіцай. 60 – газавых ліхтароў. 15025 жыхароў, 7250 мужчын, 7775 жанчын. 4 бальніцы на 115 ложкаў, 6 дактароў, 6 акушэраў, 10 фельчараў, 1 ветфельчар, 2 аптэкі, 5 аптэчных крамаў. 4 ніжэйшыя мужчынскія і 2 ніжэйшыя жаночыя ўстановы, павятовая 2-класная навучальня на 60 навучэнцаў, прыходская з жаночым аддзяленнем, аднакласная яўрэйская школа, 23 настаўнікі, 700 вучняў, 3 друкарні, фатаграфія, бібліятэка-чытальня. 4 пажарныя помпы і машыны, 6 пажарных бочак. Зарплата прыслузе: мужчынам – 10 рублёў, жанчынам – 5 рублёў, заробак чарнарабочага ў дзень: мужчыны - 70 капеек, жанчыны – 50 капеек.

**1904 год, 4 лістапада.** У Курасеўшчыне прыступілі да заняткаў у школе пісьменства 22 хлопчыкі і 7 дзяўчынак, настаўнік селянін Даніла Кандратавіч Рачак.

**29 лістапада.** У Ольжаве прыступілі да заняткаў у школе пісьменства 20 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, настаўнік Уладзімір Вікенцевіч Савонь.

**11 снежня.** У Далекіх прыступілі да заняткаў у школе пісьменства 23 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. Настаўнік

Ігнат Фаміч Цысовіч.

**1914 год, 1 жніўня.** Пачалася Першая Сусветная вайна.

**1914 год.** У Лідзе жыло 18 тысяч чалавек, у горадзе 40 прадпрыемстваў. Працавалі бетонна-цементны завод, лесапільня Палячыка, тытунёвыя фабрыка Валенчыка, піваварныя заводы Пупко і нашчадкаў Папірмайстэра, макаронная і кандытарская фабрыкі, вінакурня Стручана, мылаварня Ківаловіча, завод па разліву гарэлкі, друкарня Айзіка Эпштэйна. Чыгуналіцейны і машынабудаўнічы завод братоў Якуба і Эбера Шапіра выпускаў конныя прывады, перадатачныя станкі для конных прывадаў, малацілкі, сячкарні, корнеабрэзкі, плугі, плужкі, бараны, веялкі-сарціроўкі (арфы), чыгунныя крыжы для помнікаў, чыгуннае і меднае ліццё паводле чарцяжоў.

Пачалі будаваць аэрадром. Базаваліся "цэпеліны".

Шкляная вытворчасць Столе мела 4 шкловарныя печы, колькасць рабочых дасягнула 1125 чалавек. Майстар атрымоўваў 50 рублёў, рабочы – 15, жанчына –8, падростак –5. Майстры забяспечваліся жыллём. У пасёлку 2 касцёлы, царква, піцейная ўстанова.

**1919 год.** Закрыта Свята – Міхайлаўская царква.

**1924 год, 30 лістапада.** У Вільні адбылася канферэнцыя КПЗБ, як часткі КПРП. Канферэнцыя прымае курс "на арганізацыю і палітычную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання". 3 з'езд КПРП з пастановай КПЗБ не згаджаецца, Масква становіцца на бок КПРП.

**1929 год, жнівень.** Адозва ЦК КПЗБ да працоўных Заходняй Беларусі з заклікам да барацьбы супраць дэзарганізацыйнай дзейнасці беларускіх буржуазных нацыяналістаў у ТБШ. Штрайк на шклозаводзе "Нёман" названы гераічным. У казармах афіцэры знайшлі і забралі 136 адозваў кампартыі.

**Верасень.** Цалкам завершана будаўніцтва школы №1. На адкрыццё школы прыязджаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. Масціцкі выплаціў 5 сяброўскіх паёў і стаў акцыянерам Народнага банка ў г.Лідзе.



**Школа № 1**

**17 верасня.** Судовы працэс "36" у Лідзе па абвінавачванню ў прыналежнасці да КПЗБ.

Выязная сесія Віленскага акружнога суда ў Лідзе разгледзела справу 36 рабочых і беднейшых сялян Ліды і навакольных мястэчак, якіх польская дэфензіва пасадзіла на лаву падсудных, як падазраваных у прыналежнасці да КПЗБ.

Перад выхадам у суд палітвязням пачалі "каваць" рукі і ногі, яны запратэставалі. Прыбыў дадатковы аддзел паліцыі. Пад узмоцненай аховай закаваных вязняў даставілі ў суд. Калі вязніцы сабраўся вялікі натоўп рабочых і сялян, якія бурна пратэставалі. Конная і пешая паліцыя разагнала натоўп. Па гэтай справе суд вынес суровыя выракі. М. Рабінштэйн, С. Шмуйловіч, Х.Кур, Л. Разенштэйн, В.Казароўскі атрымалі па 6 гадоў катаргі, 8 падсудных – па 5 гадоў, 4 – па 4 гады, 13 – ад двух да трох гадоў, 6 чалавек прызнана невінаватымі.



Оперативная сводка Генерального штаба РККА

18 сентября

В течение 18 сентября войска Красной Армии продолжали [illegible] части польской армии и к вечеру заняли:

На севере — в Западной Белоруссии — гор. [illegible], железнодорожный узел Лида, гор. Новогрудок, м. Орля (на реке Неман), города Слоним, [illegible] (на ж.-д. линии [illegible] — Брест-Литовск).

На юге — в Западной Украине — железнодорожный узел Сарны, города [illegible], Станиславов, Галич, [illegible].

[illegible] Красной Армии [illegible] к гор. Львову и Вильно.



**Чырвоная Армія. 1939 г.**

**1939 год, 1 верасня.** Фашысцкая Германія напала на Польшчу. Пачалася другая Сусветная вайна.

**17 верасня ў 5 гадзін 40 хвілін.** Чырвоная Армія перайшла са-вецка-польскую мяжу.

Апошнія 17 самалётаў-біпланаў "Карасі" падняліся з Лідскага аэрадрома і паляцелі ў бок Летувы. Ляцелі над Нёманам.

**18 верасня, 16 гадзін.** У Ліду ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі. На вуглу вуліц Калініна і Энгельса ўстаноўлена трыумфальная арка.



**Чырвоная Армія. 1939 г.**

**18 гадзін.** У замку адбыўся мітынг, сабраліся каля 8 тысяч гараджан, падпалкоўнік Быкаў – камандзір танкавай часткі абвясціў у горадзе савецкую ўладу. З вязніцы вызвалены Бондар С.А., Некрашэвіч А., Радзецкі М.Р. - сябры падпольнай арганізацыі в. Сялец.



Рачкевіч М. Т.

**19 верасня.** Начальнікам Рабочай Гвардыі ў Лідзе прызначаны актыўны дзеяч, прафсаюзу будаўнікоў М.Т. Рачкевіч.

**24 верасня.** Лідскія школы аднавілі навучанне. У будынку першай школы адкрыты дзве сямігадовыя школы: руская №1 і беларуская №2.



Жыхары Ліды чытаюць першы нумар газеты "Уперад"

**25 верасня.** Створана часовае кіраўніцтва Лідскага павету, старшынёй прызначаны Калінін Пётр Захаравіч.

**30 верасня.** Выйшаў першы нумар газеты "Уперад" - органа часовага кіраўніцтва Лідскага павету.

**Пачатак кастрычніка.** Пачалася падрыхтоўка да выбараў у Народны (нацыянальны) Сход Заходняй Беларусі.



Іваноўскі М. М. - дэлегат Народнага Сходу Заходняй Беларусі ад Ліды і сябар Паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі. 1939 г.

**Кастрычнік.** Чырвоныя абозы даставілі прадукты ў Ліду. Для лепшай арганізацыі гандлю ў горадзе створаны аптовыя базы, цераз якія Часовае кіраўніцтва размяркоўвала прадукты і прамысловыя тавары.

*"Пачалі па-страшнаму браць падаткі. "Кантынгент" прымалі на старом млынакамбінаце". Прымаць не паспявалі. Збіралася па 500-600 падводаў, чэргі стаялі на 2-3 сутак. Здавалі падаткі пакорна і паслушна."*



Народны сход Заходняй Беларусі

**22 кастрычніка.** Выбары ў Заходне-Беларускі Народны сход.

**23 кастрычніка.** Апублікаваны вынікі выбараў, выбраны 927 дэлегатаў: 621 беларус, 127 палякаў, 72 яўрэі, 53 украінцы, 43 рускія. Дэлегатамі ад Ліды былі абраны 5 чалавек: Іваноўскі М.М., Рэдзік Я. А., Кароль Ю. В., Некрашэвіч А. І. ..., ад Лідскага павету – 38 чалавек, у тым ліку Фёкла Бідзевіч з м. Беліца.

**28 кастрычніка.** У Беластоку адкрыўся Народны (нацыянальны ) Сход Заходняй Беларусі.

**29 кастрычніка.** Зацверджана дэкла-рацыя аб дзяржаўнай уладзе ў Заходняй Беларусі.

Прынята рашэнне аб канфіскацыі без усякага выкупу зямель памешчыкаў, кляштароў і буйных дзяржаўных чыноўнікаў, аб нацыяналізацыі банкаў і прамысловых прадпрыемстваў.

**2 лістапада.** Нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета СССР разгледзела просьбу паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі аб уключэнні яе ў склад Савецкага Саюза і прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанне яе з БССР.

**12 лістапада.** У Менску на нечарговай трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР разгледжана заява паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі аб яе ўключэнні ў склад БССР.

Вярхоўны Савет пастанавіў:

1. Вітаць пастанову Вярхоўнага Савета СССР аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза.
2. Прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР.


БССР. 1939 г.

**14 лістапада.** У гонар уз'яднання беларускага народа ў Менску адбыўся парад войскаў і дэманстрацыя, ў якой прынялі ўдзел 150 тысяч чалавек.

**4 снежня.** Указам Прэзідыума Вярхоўнага савета СССР заміж раней існых Беластоцкага, Палескага, Наваградскага, і Віленскага ваяводстваў утвораны Беластоцкая, Берасцейская, Баранавіцкая, Вілейская і Пінская вобласці.

**15 снежня.** Выбары ў мясцовыя Саветы.

**1944 год, 3 ліпеня.** Расстраляны Лідскія камсамольцы - падпольшчыкі.

**8 ліпеня, раніца.** Жаўнеры 5 - ай кавалерыйскай дывізіі 3-га Гвардзейскага кавалерыйскага корпуса выйшлі на ўскраіны Ліды.

**19 гадзін.** Ліда цалкам вызвалена. У вызваленні прымалі ўдзел 17,23,86 кавалерыйскія палкі. На станцыі захоплена 6 цягнікоў з прадуктамі, баепрыпасамі, абмундзіраваннем.

У горадзе каля 70 % будынкаў разбурана. Засталося каля 12 тысяч жыхароў. Расстраляна за гады вайны каля 11 тысяч чалавек, у Лідскім раёне расстраляна 25148 чаклавек.

**9 ліпеня.** Масква салютавала войскам 3-га Беларускага фронту ў гонар вызвалення Ліды 12 артэлерыйскімі залпамі з 124 гармат.

**10 ліпеня.** Кулямётчык С.І. Балгарын каля в. Парачаны агнём з кулямёта рассеяў нямецкіх сапёраў, якія спрабавалі ўзарваць чыгуначны мост праз р. Дзітву.

Каля в. Парачаны смяртэльна паранены камандзір 86 кавалерыйскага палка падпалкоўнік А.Ф.Труханаў.

**25 ліпеня.** Падпісаны загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, у якім пералічваліся часткі, што вызвалялі Ліду. 17, 23 і 86 кавалерыйскім палкам ды 307 штурмавой дывізіі прысвоена Ганаровае найменне "Лідскіх". Камандзіры: 17 палка - падпалкоўнік Шаўчэнка М.Т., 23 палка– падпалкоўнік Бондар Б.Т., 86 палка - падпалкоўнік Труханаў А.Ф., 307 дывізіі - палкоўнік Кажамякін А. В.

**Ліпень.** Аддзелы АК сканцэнтраваныя пад Вільняй для ўдзелу ў аперацыі "Вострая брама", акружаны часткамі Чырвонай Арміі і разброены, афіцэры інтэрнаваны. Асобныя групы і аддзелы адступілі пад Ліду. У Лідскім раёне пачынаюць дзейнічаць аддзелы "Рагнера", Лупашкі, Пільха, Нуркевіча, "Крыся", якія вярнуліся з-пад Вільні.

**Ліпень.** У карпусах фабрыкі "Ардаль" арганізаваны падсобныя склады "Нарыхтзбожжа".

**Жнівень.** Разгромлены штаб Навагрудскай акругі Арміі Краёвай начале з маёрам М. Калянкевічам ("Котвіч").

Аднаўлена гарадская бальніца на 125 ложкаў.

**15 жніўня.** Лідскі мясакамбінат (Фабрычная,11) прыступіў да работы. Усім арганізацыям, установам і прыватным асобам забаронена праводзіць забой жывёлы прыватным чанам. Вінаватыя ў парушэнні нясуць адказнасць па законах ваеннага часу.

**17 жніўня.** Складзены акт пра злачынства фашыстаў у г.Ліда. Падпісаны сябрамі камісіі: старшыня - першы сакратар гаркама Г.А. Сідорык, адказны сакратар – сакратар гарвыканкама А.Т.Глухароў, сябры: І.А.Радчанка - старшыня гарвыканкама, Хаметаў - начальнік НКУС, Фінevіч загадчык горздрава, Л.Ф.Чэпак - святар праваслаўнай царквы, Ю.А. Гнатоўскі – галоўны інжынер г.Ліды. Камісія пачала работу 31 ліпеня. Адначасова пачала і закончыла працу другая камісія ў складзе: старшыня – намеснік старшыні гарвыканкама І.А. Прадыгін, сябры: І.К. Пяцькоўскі (гарком), Пракураў, Ф.І.Ніканаў, судмедэксперт В.Ф.Стасевіч, ксёндз М.К.Чабаноўскі, святар А.Г. Зукаль, доктар М.В. Галіна і М.І.Кальф.

**26 жніўня.** Двухпавярховы каменны дом па вул.7 лістапада (дом Стасевіча) замацаваны ў часовае карыстанне за КЭЧ. Крамы, што знаходзіліся на першым паверсе д.70 (кінатэатр па вул.Савецкай) замацаваны за ваенгандлем.

**31 жніўня.** На паседжанні гарвыканкама прынята рашэнне – дом №78 па вул.Школьнай вызваліць ад жыхароў да 16 гадзін 1.09.44 года для спецыяльных патрэб НКУС Беларускай вайсковай акругі.

**1 верасня.** Прынята рашэнне гарвыканкама аб стварэнні камітэта фізкультуры і спорту, старшынёй камітэту прызначаны Галаванаў А.

Пачала працу руская сярэдняя школа №1, дырэктарам прызначаны Гладкоўскі Яўген Мікалаевіч.

У будынку педнавучальні ў правым крыле размешчана СШ №2. Дырэктарам прызначаны В.Емяльянаў. у школе навучалася 120-140 дзяцей.

У левым крыле размяшчалася педнавучальня.

**3 верасня.** Камандзір Наднёманскіх злучаных батальёнаў "Рагнер" папярэдзіў камандзіра залогі савецкіх войскаў г.Ліды, начальніка НКУС і старшыню гарвыканкама,, што ў адказ на арышты цывільнага насельніцтва і забойства жаўнераў Арміі Краёвай, затрымае рух па чыгунцы з 3.09.44 г. па 7.09.44г.



**Часлаў Заянчкоўскі ("Рагнер")**

**4 верасня.** Групай "Рагнера" на ўчастку Далекія-Дубчаны ўзарваны чыгуначны мост.

**8 верасня.** Падпісаны загад Народнага камісарыяту харчовай прамысловасці СССР аб стварэнні ў Лідзе камбіната харчовых канцэнтратаў на базе піваварннага завода №2.

**10 верасня.** Поблізу вёскі Ворнішкі частка аддзела "Рагнера" пад камандаваннем сяржанта Паўлоўскага В.С. ("Завіруха") уступіла ў адкрыты бой з вайсковай часткай Чырвонай Арміі.

**20 верасня.** Ліда і Лідскі раён уключаны ў склад Гарадзенскай вобласці.

**13 кастрычніка.** Чэкісцкая група А.М. Нібуша каля хутара Рылаўцы забіла памочніка "Рагнера" па мянушцы "Рыч", у сумцы забітага знайшлі важныя дакументы.

**25 кастрычніка**. Групай аддзела "Рагнера" за пераслед польскіх грамадзян" растраляны жыхар в. Агароднікі Лукашэвіч М.К.

**канец кастрычнік.** Аддзелам "Рагнера" у в.Любарты забіты лейтэнант Чырвонай Арміі А.А.Кругляк.

**6 лістапада.** Групай "Рагнера" растраляны старшыня Няцечскага сельсавета Лукашэвіч Аляксандр Барысавіч.

**25 лістапада.** Групай "Рагнера" расстраляны жыхары в. Агароднікі Стралярчык І.А. і Мацкевіч В.П.

**Лістапад.** Камбінат харчовых канцэнтратаў на фронт першую прадукцыю.

**Снежань.** А.М. Нібуш разам з Гарэлкіным і 3 жаўнерамі ў адной з хатаў вёскі Клюкавічы затрымалі "Пазуркевіча" (падпаручнік Ежы Баклажанец) камандзіра 11 роты 4-га батальёна Арміі Краёвай.

**3 снежня.** Падчас чэкісцка-вайсковай аперацыі ў раёне хутароў Ерамеічы забіты Часлаў Заянчкоўскі ( "Рагнер").

**20 снежня.** Каля в. Лясніі разгромлена група "Рагнера".

**1944 год.** Пабудавана рамонтнае дэпо на дзве рамонтныя канавы даўжынёй 80 м.

**1944 год.** У гарадской бібліятэцы 685 кніг і 320 чытачоў.

**1949 год, 23 жніўня.** Арганізаваны калгас "Чырвоная зорка" у в. Шайбакі, Трацякоўцы, Вінькаўцы Трацякоўскага с/с.

**5 верасня.** Арганізаваны калгас "17 верасня" у в. Крывічы Беліцкага с/с.

**7 верасня.** Арганізаваны калгас імя Чапаева у в.Навіцкія-2 Трацякоўскага с/с.

**14 верасня.** Арганізаваны калгас "Новы шлях" у в.Хлусы – Субачы Жалудокскага с/с.

**19 верасня.** Прынята пастанова Савета Міністраў СССР аб будаўніцтве Лідскага малочнакансервавага завода.

**8 кастрычніка.** Арганізаваны калгас імя Будзённага ў в. Табола Няцечскага с/с.

**14 кастрычніка.** Арганізаваны калгас "Світанне" у в. Алямпікава Мажэйкаўскага с/с.

**1949 год.** На абутковай фабрыцы пачаўся масавы пашыў абутку.
Адноўлена і пабудавана новых жылых дамоў агульнай жылой плошчай 30 тысяч м2.
На мясакамбінаце пабудаваны халадзільнік ёмкасцю 130 т.

**1954 год, снежань.** Уведзена ў працоўны стан першая чарга электрастанцыі.

**1959 год.** Пачаў працу аўтарамонтны завод.

**1964 год, 20 жніўня.** На базе вячэрняй філіі Менскага палі-тэхнікума адкрыты Лідскі індустрыяльны тэхнікум (пастанова Савета Міністраў БССР ад 18 жніўня і распараджэнне па Міністэрству вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесійнай адукацыі).

**15 лістапада.** Адкрыты Лідскі планетарый.


Лідскі індустрыяльны тэхнікум

**1969 год, 10 ліпеня.** Рашэннем выканкама Лідскага гарсавета вуліца 4-ая Куйбышаўская перайменавана ў вуліцу імя І. П. Катлярэўскага.

**22 верасня.** У Лідзе нарадзіўся Цыленць Валеры Антонавіч - майстар спорту міжнароднага класа па класічнай барацьбе, бронзавы прызёр XXVI Алімпійскіх гульняў у Атланце ў 1996 годзе ў сярэдняй вазе – да 82 кг, пераможац і прызёр рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтваў, трэці прызёр чэмпіянату свету (1994). Першы трэнер Анатоль Іванавіч Паплаўскі.

**1979 год, 8 ліпеня.** На паседжанні выканкама гарсавета вырашана перайменаваць вуліцу Лётную ў вуліцу імя генерала Бяды, вуліцу 1-ую Крупскую ў вул. імя Фамічова Рыгора Філатавіча, 2-гі завулак Говарава ў вул. імя К.Каліноўскага. Найменаваць забудованыя вуліцы другой чаргі індывідуальнай забудовы мікрараёна "Маладзёжнага", праезд № 4 - вул. Багдана Хмяльніцкага, праезды № 5, 10 – вул. Грыгор'ева Віктара Міхайлавіча, а праезды № 6, 11 – вул. імя Сытнікава Іллі Іванавіча, праезды № 7, 12 – вул. імя Балгарына Сяргея Іванавіча, презды № 8, 13 - вул. імя Аляксандра Стаханава, праезды № 9, 14 - вул. імя Паны Ангелінай.

**1979 год.** На сродкі завода "Оптык" пабудаваны 4-х павярховы навучальны корпус для тэхнікума, у якім былі адкрыты сталоўка, 13 навучальных кабінетаў.

**1989 год, 2 ліпеня.** Адкрыты помнік Адаму Міцкевічу ў Лідзе. Скульптар Валяр'ян Янушкевіч.


Помнік А. Міцкевічу ў Лідзе

# ШАХМАТНЫ КАМПАЗІТАР З ЛІДЫ

16 кастрычніка 1999 года на 86 годзе жыцця памёр Вацлаў Яўгенавіч Гебельт, чалавек вялікай душы, глыбокага аналітычнага розуму, выключных маральных якасцяў. Філолаг па адукацыі, шахматыст па прызванні, бухгалтар па прафесіі. У апошні год свайго жыцця ён шмат супрацоўнічаў з краязнаўчым музеем, пераклаў з лацінскай і з рукапіснай польскай некалькі вельмі складаных тэкстаў, у прыватнасці прывілей гораду Лідзе на Магдэбургскае права.



**Вацлаў Гебельт**

У жніўні мінулага года ён распавёў мне гісторыю свайго жыцця.

*"Нарадзіўся 10 снежня 1913 года ў вёсцы Лабно Гарадзенскага раёна. Бацькі: Яўген Антонавіч і Агата Людвікаўна ( у дзявоцтве Войнас), абое каталікі. Прадзед прыехаў з Чэхаславакіі. Дзед служыў ляснічым. Бацька скончыў аграрную школу, маці з сялян. Бацька арандаваў зямлю ў вялікім маёнтку Лабно ў рускага генерала Свечына. З часам купіў 100 гектараў зямлі. Нас у сям'і было пяцёра: Сафія – 1898 года нараджэння, Эмілія - 1899, Антон – 1901, Вацлаў – 1913 і Тадэвуш – 1914 года нараджэння. Бацька памёр у 1931 годзе, пахаваны ў вёсцы Селіванаўцы. Помнік яму быў знішчаны падчас вайны. Маці памерла ў 1958 годзе ў Польшчы. Сёстры скончылі некалькі класаў школы, удачна выйшлі замуж і сталі хатнімі гаспадынямі. Антон закончыў рамесленую школу, пасля вайны атрымаў участак зямлі ў Свабодзіне і палову дома. працаваў на гаспадарцы. Я і Тадэвуш атрымалі вышэйшую адукацыю. Тадэвуш скончыў сельскагаспадарчы інстытут, працаваў на гаспадарцы, вырошчваў насенне.*

*У 1915 годзе прыйшлі немцы. У Лабне і садзе стаяла нямецкая пушка, я разам з сёстрамі падыходзіў да яе. У 20-м годзе бацьку хацелі расстраляць – у нас было шмат зямлі. Бацьку забраў камісар у скураной куртцы, але ўсе суседзі выйшлі, сказалі: "Адпусці, ён харошы". Ва ўзросце 10 гадоў я паступіў у Гарадзенскую гімназію. Да паступлення мяне рыхтавала дома сястра Эмілія. Вучыўся 8 гадоў. Гімназія размяшчалася на вуліцы Паўночнай, недалёка ад дома Тызенгаўзена. Вучылі французкую, лацінскую, польскую мовы, геаграфію, фізіку, матэматыку, гісторыю. У 1931 годзе паступіў у Варшаўскі ўніверсітэт імя Юзэфа Пілсудскага (Кракаўскае прадмесце, зараз Варшаўскі дзяржаўны ўніверсітэт) на гуманітарны факультэт. У 1933 годзе пачаў займацца шахматнай кампазіцыяй, наведваў Варшаўскае таварыства шахматных кампазітараў. У чэрвені 1937 года скончыў універсітэт са спецыяльнасцю – класічная філалогія, лацінская, грэцкая. Напісаў дыпломную працу "Гісторыя Афін-*


ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

**Атэстат сталасці**


UNIWERSYTET JÓZEFA PIŁSUDSKIEGO
W WARSZAWIE
WYDZIAŁ HUMANISTYCZNY

DYPLOM MAGISTRA FILOZ

PAN WACŁAW STANISŁAW HEBELT

**Дыплом магістра філасофіі**

*скай дзяржавы ў святле ўяўленняў Арыстоцеля". Атрымаў дыплом магістра філасофіі. Прафесар Злінскі, які выкладаў у Варшаўскім універсітэце, а да гэтага жыў у Пецярбурзе, гаварыў нам:"Хто ведае класічную філалогію, той можа ўладкавацца працаваць усюды".*

*Брат Антон і мама жылі на гаспадарцы. Частку зямлі аддалі сёстрам у пасаг, частку прадалі - двое вучыліся. Засталося 50 га. На канікулах прыяжджалі дапамагалі. У 1937-1938 навучальным годзе праходзіў практыку ў Варшаўскай гімназіі. Прысутнічаў на ўроках лацінскай. Зрэдку дазвалялі весці ўрокі. У 1938-1939 навучальным годзе працаваў настаўнікам гімназіі ў Сувалках. Выкладаў лаціну ў 2-4 класах па 20 урокаў на тыдзень. Плацілі мне 100 злотых у месяц, пуд жыта каштаваў 2 злотыя. У чэрвені забралі ў войска. Служыў у Яраславе над Санам. Да гэтага бралі летам на два месяцы ў Маладзечна. Жылі ў вайсковых казармах, але асобна ад жаўнераў. У канцы жніўня 1939 года нас адправілі на сваіх ваенкаматах. Я ехаў у Сухую Балю, дзе жылі мае брат і мама. Вайна для мяне пачалася ў цягніку, калі цягнік пераехаў Варшаву, немцы пачалі бамбіць. У Сухой Балі мяне ўзялі ў камісію па прыёму жывёлы - выпісваў квітанцыі. Жывёлу пераганялі за Нёман. Ад Сухой Балі Нёман за 6 кіламетраў. 17 верасня -- для ўсіх нас поўная нечаканасць. Я пачаў шукаць працу - у Горадні не прынялі. Паехаў у Аўгустоў у аддзел адукацыі. Там мяне накіравалі ў школу вёскі Лойкі (Сапоцкінскі раён). У 5-м класе вёў усе прадметы: арыфметыку, геаграфію - на польскай, вёў і нямецкую. Рускай я не ведаў, выкладаў іншы настаўнік. Пачаў працаваць з 1 лютага 1940 года, атрымоўваў 900 рублёў. У крамах тавару не стала, прывозілі цукеркі, давалі па 1 кілаграму. Чарніла рабілі з буракоў. Недахоп тавару тлумачылі тым, што ў Еўропе чыгуначная каляя іншага памеру. На наступны год дастаўка тавару палепшылася. У 40-м годзе арыштавалі старэйшага брата, сядзеў у Горадні, як кулак.*

*22 чэрвеня немцы ўвайшлі ў Лойкі. Бамбілі толькі на мяжы. Спачатку ўсе падумалі, што навальніца. Недалёка ад нас два хлопцы ішлі па сцежцы. Немцы іх застрэлілі за тое, што ішлі не па дарозе. Школу зачынілі. Пражыў усю вайну на гаспадарцы ў брата. Трэба было здаваць хлеб усёй вёскай, калі здасі, можаш прадаваць. Адну свінню здаеш - адну колеш для сябе. На жыццё хапала. У Сухой Балі немцаў не было. Хутар. Немцы прымушалі вырошчваць тытунь. У гаспадарцы былі дзве пары коней, дзве каровы, 2-3 свінні, малацілка, двайны плуг, бараны. Працавалі з цямна да цямна – тры браты, жонка брата, маці. На забаву хадзілі ў Лойкі. Адступалі немцы адзін дзень 17 ліпеня, баёў не было, хутар уцалеў. Немцы заходзілі, браму разламалі.*

*Мне даручылі арганізаваць школу ў Лойках, быў прызначаны першым пасляваенным дырэктарам школы. Выкладанне вялі на польскай. У канцы снежня 1944 года мяне арыштавалі, за што - не ведаю. Тады шмат каго з гарадзенскай інтэлігенцыі арыштоўвалі. Занісалі біяграфічныя звесткі і адправілі ў Горадню. Допытаў не было. Суда не было. Пратрымалі да сярэдзіны лютага 1945 года ў цэнтральнай Гарадзенскай турме каля фарнага касцёла. Без суда і следства вывезлі ў Комі АССР. У дарозе кармілі рыбай. Ніхто нічога не тлумачыў. Сацыяльна-небяспечны элемент. Братам абышлося – Тадэвуш схаваўся, Антона больш не чапалі.*

*Комі АССР. Інта. Капалі траншэі, нарыхтоўвалі камень, шчэбень на дарогі. Лагеры для нас ужо былі падрыхтаваныя. Адсыпалася дарога да Варкуты. Працавалі на цагельні – наша брыгада падвозіла дровы да печаў. Работы мянялі. У саўгасе "Месью" працаваў - вырошчвалі капусту, турнэпс, бульбу. Бульбу саджалі ў траўні, расла хутка – светлы дзень 20 гадзін. Канвой. Сабакі. Працаваў на лесанарыхтоўках ў іншых лагерах у межы Комі АССР, а ў канцы тэрміну ў Архангельскай вобласці. Прывезеных з Гарадзеншчыны раскідалі па розных лагерах. Ні з кім з тых, што везлі, не сустракаўся. Кармілі вельмі дрэнна, выратавалі мяне пасылкі ад суседзяў і бацькоў вучняў. Землі нашы далучылі да калгаса пасля вайны. Калі мая сям'я выязджала ў Польшчу, пакінулі каштоўныя рэчы суседзям у Лойках. Прысылалі мне ў пасылках крупы, сала, муку, цыбулю, часнок. Тыя, каго саджалі без паражэння ў правах, мелі права на атрыманне пасылак. У лагеры сярод вязняў арганізоўваліся шахматныя турніры. Былі і такія, хто ў мяне выйграваў.*

*Гады праз два мне абвясцілі, што суд у складзе трох чалавек прысудзіў мяне да 5 гадоў лагераў паводле артыкулу 58 дроб 3. Маецца даведка №33136 ІТЛ "Я" ад 24.10.49: асуджаны 1 красавіка 1946 года паводле артыкула 5813 на 5 гадоў. Усць-Ілімскі лагер. Вызвалены 26.10.49. Далі мне 30 рублёў на дарогу і сухі паёк. Пасля вызвалення хацеў уладкавацца ў Горадні, але ў міліцыі сказалі – толькі не ў памежным раёне. Прыехаў у Ліду ў снежні 1949 года, пачаў шукаць работу – накіравалі на будаўніцтва мясакамбіната. Было мне тады 27 гадоў. Пачаў працаваць будаўніком – капаў траншэі. На мясакамбінаце тады не было ні канторы, нічога. У 1951 годзе жаніўся, жонка працавала на мясакамбінаце, пазней стала хатняй гаспадыняй і рабіла вянкі. Тады ж зноў пачаў сур'ёзна займацца шахматнай кампазіцыяй, пасылаў задачы ў Маскву. Шахматнага клуба ў Лідзе тады не было. Арганізавалі першынство горада – я яго выйграў. На абласных першынствах*



**Вацлаў Гебельт каля дэманстрацыйнай дошкі**


Грамота

Комитет по физической культуре и спорту при Совете Министров СССР

награждает

За перамогу ў 4-м усесаюзным конкурсе рашэння шахматных задач і эцюдаў (1954 год)

*займаў 5-6 месца. Чэмпіён Ліды 1954 і 1955 гадоў. У 1955 годзе мяне прызначылі в.а. інжынера-будаўніка. Пацвердзіліся словы прафесара Зялінскага пра класічную філалогію. У 1957 годзе галоўны бухгалтар прыгледзеўся да мяне і ўзяў у бухгалтэрыю. Бухгалтарскаму ўліку навучыўся сам. У 1963 годзе быў прызначаны намеснікам галоўнага бухгалтара. У 1968-69 гадах у СШ №3 была арганізавана вячэрняя двухгадовая бухгалтарская школа. Здаў усе прадметы на выдатна. Мне прапаноўвалі мейсца галоўнага бухгалтара на Ваўкавыскім мясакамбінаце. У 1976 годзе пайшоў на пенсію".*

*Рэабілітаваны ў 1992 годзе на 79 годзе жыцця.*

**Даведка №13/396-92 ад 10.07.1992года.**

**Гебельт Вацлаў Яўгенавіч, ...27 снежня 1944 года быў арыштаваны Сапоцкінскім РА НКВД Гарадзенскай вобласці і паводле пастановы Асобнай Нарады пры МУС СССР ад 1 красавіка 1946 года па палітычных матывах паводле арт 58-3 КК РСФСР заключаны ў папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 5 гадоў. Вызвалены з месцаў пазбаўлення волі 24 кастрычніка 1949 года. У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта СССР "Аб аднаўленні правоў усіх ахвяр палітычных рэпрэсій 50-х гадоў" ад 13 жніўня 1990 года і адпаведна парадку, устаноўленаму пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" ад 6 чэрвеня 1991 года пастанова Асобнай Нарады пры МУС СССР ад 1 красавіка 1946 года ў адносінах Гебельта Вацлава Яўгенавіча прызнана незаконнай, і ён па гэтай справе рэабілітаваны.**

**Пракурор вобласці, дзяржаўны дарадца юстыцыі 3 класа**

**Л.П.Цярэшчанка**

*Першая жонка памерла ў 1973 годзе, другая жонка, інвалід II групы, памерла ў кастрычніку 1997 года – працавала яна ў пральні, выдавала бялізну. Агульных дзяцей не меў. У другой жонкі быў сын ад першага шлюбу. Сёстры і браты пасля вайны жылі ў Польшчы. Сафія памерла ў Шчацініку ў 1958 годзе, Эмілія ў Шчэціне ў 1985 годзе, Антон - у Свабодзіне ў 1977 годзе, Тадэвуш – у Познані ў 1995 годзе."*


Зборная БССР у Стайках, сакавік 1973 года. Трэці справа Вацлаў Гебельт

Вацлаў Яўгенавіч апублікаваў 575 шахматных задач, 120 з якіх атрымалі прызы на конкурсах, у тым ліку 52 першых. Майстар спорту СССР па шахматнай кампазіцыі (1957), міжнародны арбітр ФІДЭ па шахматнай кампазіцыі (1959), міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі (1977). Чэмпіён СССР у пятым асабістым першынстве па раздзелу двухходовых задач (1956). Чэмпіён СССР па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве ў 1969, 1971 гадах. Шэсць


Вацлаў Гебельт з вучнямі

разоў выступаў на міжнародных спаборніцтвах у складзе зборнай каманды СССР. Лепшыя дасягненні: 2-е месца ў матчы СССР-Галандыя, першае месца ў матчы Дружбы 1965 года. Пераможац першага чэмпіянату Міжнароднай шахматнай федэрацыі па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве (1975). Выступаў за зборную каманду БССР ва ўсіх 12 камандных першынствах СССР, яго задачы займалі 6 разоў першае месца і 8 разоў другое. Адзін з аўтараў кнігі "Шахматная кампазіцыя ў Беларусі" Мінск, 1981 год.




За 2-е месца ў матчы са зборнай Галандыі




За 1-е месца ў першынстве БССР (1977 год)




Апошні сусветны зборнік шахматных задач (ліпень-верасень 1999 г.) З 252 задач тут 7 задач Вацлава Гебельта




Адна з апошніх задач Вацлава Гебельта

Спакой душы тваёй, зямля пухам.

*Валеры Сліўкін,*
*Краязнаўчы музей.*

# Прывілей

## караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта III аб наданні гораду Лідзе Магдэбургскага права

Мы Жыгімонт III, ласкаю Божаю кароль Польскі і г.д. абвяшчаем усім разам і кожнаму асобна, сучасным і будучым, каму гэта ведаць трэба: Мы, Гаспадар, жадаючы ў лепшым парадку мець горад Наш Ліду даём падданым горада Лідскага права Магдэбургскае і дазваляем гэтым Нашым лістом на ўсе часы. Да гэтага права для ўпрыгожання і прыўмножання, а таксама вядзення спраў судовых і гарадскіх Мы загадалі Нашым лістом прысвяціць пячатку гарадскую, гэта значыць ільва і два ключы перакрыжаваныя па-над ім. Да гэтага вызваляем падданых Нашых горада Ліды ад усіх спраў земскіх В. К. Літоўскага і звычаяў, якія замінаюць Магдэбургскаму праву, вызваляючы таксама грамадзян Гэтага горада і яго ваколіц, што зараз жывуць і жыць будуць гэтым актам Нашым ад усялякай улады і кіравання ўсіх і кожнага асобна ўраднікаў Вялікага Княства Літоўскага: ваяводаў, кашталянаў, старастаў, дзяржаўцаў падаткаў і ўсіх намеснікаў і перад імі ці адным з іх не будзе ні адзін з грамадзян адказваць ні за якія вялікія і малыя віны і злачынствы і плаціць штрафы. Толькі перад войтам, бурмістрам, радцамі, лаўнікамі Гэтага горада згодна звычаям Права паспалітага. Згодна з часам справы крывавыя, якія на лацінскай мове называюцца крыміналы, як злодзейства, забойства, пашкоджанне ног, напад і іншыя падобныя справы, за якія пагражае вышэйшая мера пакарання падпадаюць пад суд войта, а перад бурмістрам і радцамі Гэтага горада вядуцца ўсялякія справы, якія на лацінскай мове называюцца цывільнымі, за гэтыя справы будуць адказваць кожнаму, хто паскардзіцца, як з Гэтага горада, так і пабочным перад судом бурмістра і радцаў у Гэтым згаданым горадзе. Згодна з вызначаным часам, карыстаючыся вялікай уладай весці справы, якія падлягаюць іх суду, судзіць без Нас і вінаватых караць адпаведна злачынству па законах Магдэбургскага права на аснове гэтага Нашага ліста і наданага ім права. Калі ж хто будзе паступаць незаконна, супраць усіх грамадзян Гэтага Нашага горада ці пабочных асобаў, і калі хто-небудзь адчуе сабе пакрыўджаным іх вырокам ці пакараннем то яны могуць апеляваць супраць такога выраку і пакарання да Лідскага старасты, сучаснага ці наступнага, а пасля змеркавання старасты, калі будзе трэба, звярнуцца да Нас: Гаспадара. Стараста кіруючыся не іншымі законамі, а толькі Магдэбургскім, прызначае на пасаду бурмістра Гэтага горада чалавека багамольнага, знаўцу Магдэбургскага права, які жыве ў Гэтым горадзе, і ніякага іншага, толькі з чатырох чалавек, якіх грамадзяне горада старасту прапанавалі і ўказалі, адзін з іх праз Нашага старасту сучаснага і наступнага, зацверджанага Нашай уладай, павінен быць выбраны і зацверджаны. Войта, чалавека багамольнага і пісьменнага, на суд якога ідуць справы крымінальныя, Мы на гэту пасаду з усёй уладай будзем звычайным лістом, які датычыцца толькі войта, зацвярджаць кожнага пажыццёва, ці на вызначаны Намі тэрмін і надзяляць зямлёй, а гэтай зямлі не можа быць больш, чым дзве валокі. Звыш таго абяцаем, што жадаючы аказаць гэтым Нашым падданым купцам, усякім рамеснікам, усім грамадзянам з ваколіц Гэтага горада Лідскага самую вялікую ласку, устанавіць у Гэтым горадзе Лідскім два кірмашы на кожны год, гэта значыць : першы на Новае лета, другі на свята Святога Крыжа, а гандаль у суботу кожнага тыдня дазваляем праводзіць згаданым грамадзянам лідскім. Гэтыя ўрачыстыя кірмашы і гандлі ў зададзеныя дні і час праводзіць спосабам наклікання грамадзян іншых гарадоў і мясцовасцяў Вялікага Княства Літоўскага і ўсім асобна сказаць купцам, фурманам, прадаўцам, перакупнікам, рамеснікам і людзям розных станаў, што ў згаданы горад Лідскі ў дні і час кірмашоў гадавых і гандляў можна ім з усімі таварамі для продажу любога найменння прыйсці ці прыехаць і гэтыя рэчы і тавары прадаваць, мяняць, купляць і весці іншыя гандлёвыя гешэфты з любымі асобамі, ня гледзячы, адкуль хто прыехаў. Гэтаму гораду Лідскаму даём ва ўласнасць бочку меры кракаўскай чатыры

карцы, або семдзесят два гарцы меры літоўскай для вымярэння ўсякага збожжа і ўстанаўляем гандлёвыя зборы па дзве манеты з бочкі. Так і ад іншых рэчаў прадажных і тавараў, як бы яны не называліся, у кожную суботу кожнага тыдня трэба браць частку ў гарадскую скарбніцу на карысць горада, акрамя лапатак і іншых набораў войта, ад людзей пабочных, якія будуць прыязджаць на гандаль, акрамя ўсіх мяшчан і грамадзян з ваколіц Ліды, якія павінны быць вызвалены ад розных гандлёвых збораў згодна звычаю іншых прывілеяваных гарадоў Нашых. Да гэтага згаданаму гораду Лідскаму, яго грамадзянам усе гарадскія землі, гэта значыць: у вуліцах, сядзібах, садах, засценках, сенакосах адмераныя і падзеленыя межамі і знакамі без памяншэння, а толькі, як Нашыя рэвізоры Гэтаму гораду падзялілі, гэтыя землі ў даўжыню і ў шырыню гэтым Нашым прывілеем даём у карыстанне з усімі абшарамі ім самім і іх нашчадкам згодна звычаю іншых Нашых прывілеяваных гарадоў. З гэтых гарадскіх зямель, дадзеных Гэтаму гораду кожны са згаданых мяшчан павінен усе падаткі, зборы і іншыя абавязкі згодна з Нашымі законамі Вялікага Княства Літоўскага, Намі зацверджанымі, паводле звычаю кожны год плаціць у Нашую скарбніцу. Даходы і падаткі гарадскія войт з засядацелямі Гэтага горада абавязаны збіраць і здаваць Нашаму Лідскаму старасту, а пры яго адсутнасці ўрадніку і браць на гэта квітанцыі і з кожнай квітанцыі ў гарадскую скарбніцу браць не больш шасці грошаў, каб жыхары горада Ліда пакрывалі патрэбнасці горада, утрыманне вуліц і дарог і іншыя гарадскія патрэбнасці, а самі таксама добра будавалі свае дамы. На пакорную іх просьбу з Нашай ласкі ўсе зборы і падаткі з дамоў, сядзіб і гарадскіх плошчаў усе грамадзяне горада згаданага Лідскага на аснове гэтага Нашага ліста, якім Мы на іх карысць падаравалі, не будуць плаціць на вечныя часы. Акрамя таго на патрэбнасці і на карысць Нашага згаданага горада даём гэтым прывілеем даходы розныя з лазні, вагаў і цырульні, якія жыхары горада хочуць будаваць. Для бяспекі лазня павінна быць пабудавана ў баку ад горада і не адзін жыхар не мае права будаваць уласную лазню каля свайго дома, але мы пастанавілі, што павінна быць толькі адна агульная лазня. Жадаем таксама, каб шляхта, баяры, людзі службовыя, любога стану, якія ў згаданым Нашым горадзе маюць сядзібы, і якія ні Нашымі асаблівымі лістамі, ні статутамі Сойму не вызвалены ад гарадскіх абавязкаў з сваіх сядзібаў, таксама, як і грамадзяне лідскія згодна з такім жа правам без супраціву выконвалі ўсе абавязкі перад гарадскім кіраўніцтвам, як і ўсе лідскія грамадзяне на рынку, гарадскіх вуліцах, цераз рэчкі, канавы ў патрэбных месцах горада будавалі масты і масцілі дарогі, а таксама за свой кошт пабудавалі гарадскую ратушу, гадзіннік і хрысціянскую школу. Таксама дарогі і вялікія тракты ў межах гарадскіх зямель размешчаныя, павінны будуць рамантаваць. Пад і каля ратушы, якая павінна быць пабудавана, трэба стварыць агульныя гандлёвыя пункты і магазіны для складвання тавару і вядзення розных гандлёвых спраў. З гэтых гандлёвых пунктаў гарадское кіраўніцтва павінна браць падаткі і арэндную плату на карысць горада. Для бяспекі ад агню соладавы і піўзаводы павінны будавацца збоку ад горада. Для той жа бяспекі ад агню абавязваем усіх і кожнага асобна гараджан, каб муравалі і добра аздаблялі коміны. Хаця касцёл Лідскі быў святлейшымі папярэднікамі Нашымі пабудаваны і адведзены гораду, то ў горадзе няма ніякай плошчы для бальніцы. Таму Нашыя лідскія мяшчане павінны ўказаць месца на рынку пад замкам, недалёка ад касцёла, каб на гэтым месцы была пабудавана бальніца. Для лепшай веры і сведчання ўсіх гэтых спраў, вышэй названых, Мы далі ўсім мяшчанам Нашага Лідскага горада цяперашнім і будучым гэты Наш ліст з подпісам Нашай рукой Каралеўскай, да якога загадалі павесіць Нашую пячатку. Напісана ў Варшаве года Божага нараджэння тысяча пяцьсот дзевяностага месяца верасня семнаццатага дня.

Подпіс рукі Яго Каралеўскай Міласці такімі словамі:

Жыгімонт кароль.

Ярош Валовіч пісар. Пячатка Вялікага Княства Літоўскага падвешана.

(Пераклад з лацінскай і польскай моваў магістра філасофіі В. Я. Гебельта, адаптацыя да сучаснай беларускай мовы Станіслава Судніка.)

# Некаторыя тлумачэнні да прывілею

Магдэбургскае права з'явілася ў Магдэбургу (Усходняя Германія) у 13 стагоддзі і з часам распаўсюдзілася па Заходняй Еўропе. Першымі ліцьвінскімі гарадамі, якія атрымалі магдэбургскае права былі Вільня (1387), Берасце (1390), Слуцк – "падобна" 1441, Наваградак (1444), Горадня (1496), Менск (1499), Нясвіж (1586). Ліда далучылася да гэтага спісу асаблівых пасяленняў 17 верасня 1590 года. Усяго на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь было больш 90 такіх вольных паселішчаў.

Атрыманне магдэбургскага права было значнай падзеяй у жыцці сярэдневечных мяшчан, яно давала сур`ёзныя перавагі: гараджане вызваляліся ад феадальных падаткаў, ім гарантаваўся свабодны занятак рамяством, гандлем, земляробствам, дазвалялася выбіраць свае органы самакіравання – Магістрат (Раду) і Лаву.

У гарадах з магдэбургскім правам усю адміністрацыйную і судовую ўладу ажыццяўлялі Рада і Лава. Рада сачыла за гандлем і рамяством, кантралявала дакладнасць мер і вагаў, падтрымлівала парадак, сачыла за спраўнасцю дарог, мастоў, заезджых двароў, ажыццяўляла судовыя разборы па маёмасных і грамадзянскіх справах. Лава ўяўляла сабой судовы орган па крымінальных справах. Узначальваў Раду Войт, які прызначаўся вялікім князем пажыццёва, ён жа быў вышэйшай судовай інстанцыяй. Сябры Рады называліся радцамі, сябры Лавы – лаўнікамі, тыя і тыя вызваляліся ад гарадскіх падаткаў. Кандыдатаў у радцы і лаўнікі прапаноўваў сход гараджан, зацвярджаў войт. Радцаў выбіралі штогод, лаўнікаў на 2-3 гады. Колькасць радцаў хісталася ад некалькіх чалавек да двух дзесяткаў, напрыклад у Наваградку Рада складалася з 6 чалавек, а ў Полацку з 24. Радцы са свайго складу выбіралі бурмістра. Бурмістр праводзіў пасяджэнні Рады. У Лаве старшынстваваў войт або прызначаны ім ландвойт. Рада мела пячатку, путраны малюнак якой з`яўляўся гербам горада. Толькі малюнак на пячатцы Рады прызнаваўся паўнапраўнай выявай гарадскога герба.

Ліда ў канцы 16-га - пачатку 17-га стагоддзя складалася з замка, двара, уласна горада і прадмесця Зарэчча. Замак абкружаны з трох бакоў забалочанай Лідзейкай і Каменкай, з чацвёртай (паўночнай) глыбокім ірвом, быў вялікакняжай уласнасцю, падтрымліваўся і ахоўваўся тутэйшай шляхтай, служыў складам зброі, месцам збору павятовых соймікаў і вязніцай. Унутры замка знаходзілася драўляныя пабудовы, вязніца размяшчалася ў падвальным паверсе паўночна-ўсходняй вежы. Замкавы фальварак размяшчаўся над ручаём Каменкай, за ім лічыліся вінакурні і млыны. Горад размяшчаўся на поўнач ад замка, меў рынак і чатыры вуліцы: Віленскую, што выходзіла на дарогу ў Вільню, Замкавую, што цягнулася ад замка да рынка, Каменскую, што пачыналася ад Замкавай і выходзіла на дарогу ў



**Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт IV Ваза і кароль Польскі Жыгімонт III Ваза, які даў Лідзе Магдэбургскае права**

Горадню і Крывую, што злучала рынак з Каменскай. Зямля, занятая горадам складала ўласнасць Вялікага князя, аднак з сярэдзіны 16-га стагоддзя частка яе пераходзіць у прыватную ўласнасць: у 1566 годзе два пляцы (зямельныя ўчасткі пад забудову) атрымаў Павел Рошчым, у 1589 годзе яшчэ два пляцы купіў Аляхновіч. Ліда была горадам земляробскім: лідскія мяшчане апрацоўвалі выдзеленыя ім за горадам участкі плошчай па 1/4 -1/6 валокі (3,5-5,3 га). За кожны ворны морг (0,71 га) лідзяне плацілі 5 грошаў, за сенакосны - па 2 грошы штогадовага чыншу (падатку) у даход замкавага двара. Гэта вялікі падатак, у іншых гарадах за морг ворнай зямлі плацілі 1,5-2 грошы. Побач з чыншам гараджане штогод адпрацоўвалі па тры талакі падчас жатвы і па першаму патрабаванню выходзілі на адсыпку насыпу (грэблі), рамонт дарог і мастоў.

Рамесніцтва ў горадзе было развіта слаба: згадваюцца кавалі, гарбары і рэзчыкі па дрэву. За тое былі шматлікія мядовыя, гарэлачныя і піўныя корчмы. Насельніцтва колькасцю да 5 тысяч чалавек было рознамоўным і паліканфесійным. Былі па меншай меры дзве царквы: Святога Спаса ў горадзе і Прачысценская на Зарэччы, якая размяшчалася на перакрыжа-

ванні сучасных вуліц Калініна і Стралкоўскага.

Былі таксама прыходскі касцёл, пабудаваны ў 1414 годзе, кальвінісцкі збор і сінагога, заснаваная ў 1579 годзе з дазволу Вялікага князя Стэфана Баторыя. Усе культавыя ўстановы спраўна адпраўлялі службы, хіба толькі прыходскі касцёл у 70-я гады па прычыне недахопу прыхаджан, якія захапіліся кальвінізмам, пекаторы час быў зачынены, але з 1580 года ў Лідзе з'явіўся новы пробашч Ян Юшынскі, і ў касцёле сталі праводзіцца багаслужбы.

У 1566 годзе пры адміністрацыйнай рэформе да Лідскага староства былі далучаны Васілішкаўскае і Эйшышкаўскае намесніцтвы са складу Трокскага ваяводства і ўтвораны Лідскі павет. У 1568 годзе на вальным Віленскім Сойме была прынята пастанова аб далучэнні да прысуду Лідскага павету Эйшышскаўскага, Радуньскага, Каняўскага, Дубічскага, Васілішкаўскага і Астрынскага харужстваў Трокскага павету Трокскага ваяводства. У той жа год Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст дазволіў праводзіць паседжанні земскага суда ў адной з вежаў Лідскага замка. Дзякуючы гэтым тром рашэнням Ліда стала буйным судовым цэнтрам. Пашырэнне прысуду паўплывала на рост дабрабыту горада, павялічыла прыбыткі гараджан і Ліда стала паступава разрастацца.

Старастам Ліды ў гэты час быў Ян Абрамовіч (Абрагімовіч, ? – 19.04.1602 ) – ваявода Менскі (1593), пісьменнік, дзяржаўна-рэлігійны дзеяч, выдавец кальвінісцкіх кніг. Паходзіць са старажытнага роду Абрамовічаў, якія славіліся багаццем і адукаванасцю. Удзельнічаў ў кальвінісцкіх дыспутах з езуітамі, у Торуньскім сінодзе (1595), у нарадзе з праваслаўнымі ў Вільні (1599). Ва ўласным маёнтку Варняны (зараз Астравецкі раён) заснаваў кальвінісцкі збор, бальніцу, школу, якія існавалі да сярэдзіны 17-га стагоддзя. Выдаў у Вільні ў 1598 годзе евангелісцкі "Катэхізіс", што змяшчаў 300 рэлігійных песень, яму прыпісваюць аўтарства твора "Погляды ліцьвіна на таннную куплю і больш дарагі продаж збожжа" (1595), у якім абараняецца права на свабоду гандлю.

Прывілей падпісаны каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам III Ваза і адначасова Вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам IV Ваза. Магдэбургскае права мог даць толькі кароль - гэта была яго прывілея. Жыгімонт Ваза нарадзіўся ў сям'і шведскага караля Юхана III і Кацярыны Ягелонкі, дачкі польскага караля Жыгімонта Старога і італьянкі Боны Сфорцы. Ва ўзросце 20 гадоў Жыгімонт быў выбраны на генеральным Сойме каралём Рэчы Паспалітай з некалькіх прэтэндэнтаў, сярод якіх была таксама кандыдатура рускага цара Фёдара Іванавіча. У 1592 годзе атрымаў у спадчыну і карону шведскую, якую праз 7 гадоў вымушаны быў саступіць свайму дзядзьку з-за прычыны, як лічылі шведы, звышмернага захаплення каталіцтвам. З 1600 года вёў упартыя войны са сваім дзядзькам за карону, дзякуючы чаму шведы занялі ўсю сучасную Латвію разам з Рыгай. Больш удала ваяваў супраць Рускага царства, у 1609 годзе пачаў вялікі паход на Маскву і ў 1610 годзе ненадоўга сумеў пасадзіць свайго сына Уладзіслава на рускі пасад. Падпісаў па меншай меры 18 прывілеяў на магдэбургскае права для гарадоў і мястэчак Вялікага княства, 9 з якіх размешчаныя зараз ў Летуве і 9 - на Беларусі.

Магдэбургскае права Ліда страціла ў 1795 г. з далучэннем да Расейскай імперыі. 409 гадоў назад лідзяне выбіралі Раду (гарсавет), Рада выбірала свайго бурмістра (старшыню гарсавета) і горад існаваў ва ўмовах гаспразліку і самаакупляемасці. Лідскі прывілей 1590 года захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Санкт-Пецярбургскага аддзялення гісторыі Акадэміі Навук Расеі.

## Кароткая сутнасць прывілею

*Гораду даецце магдэбургскае права і гарадская пячатка (герб).*

*Гараджане вызваляюцца ад усіх абавязкаў, якія супярэчаць магдэбургскаму праву.*

*Падпарадкоўваюцца толькі войту і гарадскім уладам.*

*Крымінальныя справы разглядаюцца войтаўскім судом, грамадзянскія – судом бурмістра.*

*Незадаволенныя могуць звяртацца да лідскага старасты, у крайнім выпадку – да караля.*

*Стараста выбірае бурмістра з 4-х жыхароў горада, прапанаваных гараджанамі.*

*Войт зацвярджаецца каралём пажыццёва (ці на абгавораны тэрмін), надзяляецца дзвюма валокамі зямлі (42га).*

*У Лідзе дазволена праводзіць штотыднёвыя суботнія гандляванні і штогод два кірмашы, першы вясной, другі – на свята Святога Крыжа. Усім без выключэння дазволена ў гэтыя дні прадаваць, мяняць і купляць.*

*Гораду выдзяляецца бочка кракаўскай меры 4 карцы або 72 гарнцы меры літоўскай.*

*Вызначаны гандлёвыя гарадскія зборы на 2 манеты з бочкі. Мяшчане і жыхары ваколіц ад гандлёвых збораў вызваляюцца. Частка падаткаў з прыезджых ідзе ў гарадскую скарбніцу.*

*Гараджанам перадаюцца ў карыстанне ўсе гарадскія землі. Падаткі збірае войт і здае старасту.*

*З кожнай квітанцыі 6 грошаў застаецца ў скарбніцы на гарадскія патрэбы. Не праводзіцца падаткаабкладанне сядзіб, дамоў і гарадскіх плошчаў. Гораду застаюцца даходы з лазні, вагаў, цырульні, якія трэба пабудаваць.*

*Дазволена пабудаваць толькі адну агульную лазню ўбаку ад горада.*

*Шляхта і баяры, якія жывуць у горадзе, плацяць падаткі і выконваюць абавязкі таксама, як мяшчане*

*Будаўніцтва і рамонт мастоў, дарог, ратушы, гадзінніка і школы праводзіцца за кошт горада.*

*Загадана поблізу касцёла пабудаваць бальніцу, стварыць агульныя гандлёвыя пункты і склады. Падаткі з гандлёвых пунктаў і арэндная плата са складоў збіраюцца на карысць горада.*

*Саладаўні і піўны заводы павінны будавацца паза горадам. Коміны павінны дасканала вырабляцца.*

***Валеры Сліўкін.***

Станіслаў Суднік

# Бітва на Ворскле

## 12 жніўня 1399 года, аўторак

4 жніўня 1392 года ў Востраве пад Лідай сустрэліся Вітаўт і Ягайла. Яны падпісалі пагадненне, паводле якога ўлада ў Вялікім Княстве пажыццёва перадавалася Вітаўту. Атрымаў ён і бацькаву спадчыну з Горадняй, Трокамі і Луцкам. Ягайла адрокся ад беспасярэдняга валодання сваімі ўдзеламі, якія меў у Княстве. Прысягнуўшы на вернасць Ягайлу, Вітаўт стаў гаспадаром дзяржавы. Гэтак быў пакладзены канец дзесяцігадоваму нутраному заколату, што грываў у Вялікім Княстве ад 1382 года.

Атрымаўшы ўладу, Вітаўт пачаў умацоўваць дзяржаву знутры, цэнтралізаваць яе, утаймоўваць усялякі сепаратызм, ствараючы магутнае еўрапейскае гаспадарства. І ўжо праз некалькі гадоў, падтрыманы сваімі служылымі баярамі і князямі, змог пайсці на абвастрэнне стасункаў з Ягайлам.

Вітаўт фактычнаануляваў і Крэўскую вунію і Востраўскае пагадненне, вярнуўшы поўную незалежнасць Вялікаму Княству, што Ягайла фактычна і прызнаў. (Юрыдычна ж і вунія і пагадненне дзейнічалі). Адзінае, што мела месца, гэта тое, што Вітаўт і Ягайла засталіся хутчэй саюзнікамі, чым ворагамі, бо над абодвума з поўначы вісеў Ордэн.

Разабраўшыся з нутранымі праблемамі, Вітаўт павярнуў позірк на знешнія. Нескатарае зацішша ў адносінах з Ордэнам давала магчымасць умацаваць пазіцыі на ўсходзе і поўдні. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала знешнепалітычная кан'юнктура, якая складвалася ў Масковіі і татарскіх землях.

У Масковіі Вялікай княгіняй была дачка Вітаўта Сафія, а, улічваючы, што князі таксама смяротныя, яна зусім проста магла стаць рэгентшай пры малалетнім княжычы, што фактычна і адбылося, праўда, пазней.

У 1396 годзе хан Залатой Арды Тахтамыш, той самы, што ў 1382 годзе спаліў Маскву, паўстаў супраць Тамерлана. Улічваючы значную лічэбную перавагу казахаў у Залатой Ардзе, гэтае паўстанне можна лічыць першай спробай казахаў вярнуць сваю незалежнасць, страчаную за часы Чынгіс-хана.

Тахтамыш быў разбіты і Тамерлан паставіў начале Залатой Орды Цемір-Кутлуя.

"Тахтамыш са сваімі царыцамі, з двума сынамі, са скарбам і дваром шматлікім уцёк у Кіеў шукаць абароны ў магутнага Вітаўта, які з задавальненнем абвясціў сябе апекуном такога славутага выгнанніка, горда абяцаючы вярнуць яму царства. Ужо Вітаўт паспытаў шчасця супраць манголаў і, у ваколіцах Азова паланіўшы цэлы ўлус, насяліў імі розныя вёскі паблізу Вільні, дзе нашчадкі іх жывуць і дагэтуль. Ён цешыўся думкаю быць пераможцам народа, якога жахаліся Азія і Еўропа, - валодаць тронам Батыевым, адкрыць сябе шлях на Ўсход і разграміць самога Тамерлана". (Н.М.Карамзин "История государства Российского").

На самой справе Вітаўт развязваў некалькі іншыя задачы. Ён пасяліў Тахтамыша ў Лідзе, аддаўшы яму на "кармленне" Лідскі павет. Тахтамыш лічыцца Лідскім старастам з 1397 па 1399 год. Але хутчэй за ўсё толькі лічыцца. Жыў ён у Лідзе, відочна значна менш. Таму, што ўжо ў 1397 годзе Вітаўт пайшоў на Крым. Паграміў крымскіх татараў, дайшоў аж да Кафы, вядомай пазней, як цэнтр гандлю рабамі, пакарыў увесь Крым і, паводле Генадзя Сагановіча, пасадзіў там Тахтамыша.

У 1398 годзе Вітаўт пайшоў на Залатую Арду і зноў меў поспех. Ён цалкам ачысціў Правабярэжную Украіну аж да Чорнага мора, а, каб татары зразумелі, што гэта не набег, а гэта сур'ёзна, пабудаваў на Дняпры горад Ёгансбург. Таму паход 1399 года цалкам заканамернае прадаўжэнне ўсходняй палітыкі Вітаўта, балазе, Ордэн даваў магчымасць яе праводзіць і нават садзейнічаў гэтаму. А зараз мы мусім вярнуцца да мэтаў не столькі паходу 1399 года, а і ўсіх стэпавых паходаў Вітаўта. Ваяваць з Тамерланам Вітаўт наўрад ці збіраўся. Яго інтарэсы ляжалі значна бліжэй. Вітаўт імкнуўся пасля пакарэння Крыма паставіць пад сваю руку Залатую Арду. І не збіраўся ён сядаць на Батыеў трон, а хацеў мець там паслушнага і залежнага хана. І хацеў Вітаўт ад гэтага хана мець ярлык на ўсе рускія землі. Масковія, не гледзячы на Кулікоўскую перамогу, заставалася даннікам Залатой Арды, і маскоўскі Вялікі князь юрыдычна такім з'яўляўся таму, што меў ярлык ад хана Залатой Арды. Атрымаўшы такі ярлык Вітаўт пазбаўляў маскоўскага князя ўсіх юрыдычных падстаў на княжанне. Што гэта азначала практычна? Масква была даволі моцнай і магла трымаць парытэт з Залатой Ардой, але супрацьстаяць Вітаўту і Залатой Ардзе адначасова не магла. Ці скарыстаўся б Вітаўт з гэтага. Адбіраць Маскву ў дачкі і ўнука ён, безумоўна, не стаў бы, а вось сепаратысцкі настроеныя ўдзельныя князі займелі б усе магчымасці ад'ехаць да ВКЛ. Нішто больш не перашкаджала б пакласці пратэктарат на Ноўград і Пскоў, а, магчыма, і на Цвер. Таму паход 1399 года быў не авантурай, не зухвальствам, а часткай стратэгічнай камбінацыі. Так Вітаўт гэта ацэньваў, так да яго і рыхтаваўся. Паход мусіў мець стратэгічныя наступствы, і ён іх меў, праўда, іншага кшталту.

Вызначаючы сур'ёзнасць паходу, Вітаўт абвясціў яго крыжовым паходам супраць бусурман. Гэтая своеасаблівая ідэалагічная падрыхтоўка дазволіла Вітаўту акрамя ўласных 50 князёў з дружынамі і харугвамі паставіць пад Пагоню аддзел тэўтонскіх рыцараў, "знатнейшых польскіх ваяводаў Спітка Кракаўскага, Сандывога Астрарогскага, Дабрагага Саматульскага, Яна Мазоўскага і іншых з адборнымі ратнікамі". (Н.М.Карамзин. История государства

Российского). Прыйшоў на дапамогу Вітаўту з татарскім аддзелам (відавочна з крымска-татарскім) і хан Тахтамыш. Хаця іншыя сведчанні гавораць, што ўжо ў гэтай бітве ўдзельнічалі беларускія татары. Ці былі яны пад началам Тахтамыша, ці асобным аддзелам сказаць даволі цяжка.

Войска ВКЛ сабралася ў Кіеве і рушыла на поўдзень. Цемір-Кутлуй чакаў яго на берагах Ворсклы. Пачаліся традыцыйныя на той час перамовы. І нельга пагадзіцца з Карамзіным, што татары абманулі Вітаўта, зацягваючы перамовы і чакаючы падыходу Эдыгея. Яны проста маглі адступіць, а зрабіць гэта лёгкай татарскай конніцы было лёгка. Вітаўт жа ішоў з абозамі. Тады бітва адбылася б на два дні пазней, у іншым месцы. Вітаўт жа быў зацікаўлены ў поўным разгроме Арды. Іначай задача пасадкі ў Арду Тахтамыша не вырашалася. Іншая справа, што сілы Залатой Арды аказаліся большымі, чым разлічваў Вітаўт, і не сыграла сваёй ролі агністрэльная зброя, на якую Вітаўт спадзяваўся. Гарматы яшчэ не мелі колаў. Іх цяжка было паварочваць у розныя бакі, пішчалі вельмі доўга набіваліся. У зародкавым стане была і тактыка прымянення гэтай зброі.



**Бітва на Ворскле 1399 г. Мініяцюра 16 ст.** *(Тут гарматы на колах, але гэта мініяцюра 16-га ст., а не канца 14-га, калі адбывалася бітва).*

Не гледзячы на татарскую колькасную перавагу, ліцьвіны атакавалі арду Эдыгея і ў цяжкім баі змялі яе. І вось тут сказаў сваё слова вучань Тамерлана Цемір-Кутлуй. Ён не прыняў удзелу ў асноўнай бітве, а зайшоў з тылу і выцяў па непаспеўшых перашыхтавацца харугвах Вітаўта.

Першым пачаў уцякаць Тахтамыш. Нічога не заставалася і Вітаўту, як ратавацца з малой дружынай. Ледзьве трэцяй частцы войска ўдалося выбрацца з бітвы. Легла 20 беларускіх князёў. Сярод іх: герої Кулікоўскай бітвы князь Андрэй Полацкі, якому было 75 гадоў, князь Зміцер Бранскі і князь Зміцер Баброк Валынскі. Загінулі таксама князь Міхайла Яўнутавіч, князь Іван Змітравіч – пасынак яго, князь Іван Яўлашкавіч, князь Іван Барысавіч Кіеўскі, князь Глеб Святаслававіч Смаленскі, князь Міхайла Васільевіч Заслаўскі ды брат яго князь Сямён Васільевіч, князі Глеб і Сямён Карыятавічы, князь Міхайла Падбярэзскі, ды брат яго Аляксандар (па іншых звестках Зміцер), князь Зміцер Данілавіч Валынскі і брат яго Міхайла Данілавіч, князь Фёдар Патрыкеевіч Рыльскі, князь Зміцер Астрожскі, князь Аляксандар Друцкі (па іншых звестках Андрэй Друцкі), князь Іван Карыятавіч, князь Ямант Смаленскі, ваявода князь Спытка Кракаўскі, татарскі князь Монт Тулунговіч і іншыя. Гэтага татарскага князя абазвалі беларускім прозвішчам, значыць ён паспеў пажыць на Беларусі, а значыць Вітаўтавы татары таксама ўдзельнічалі ў бітве.

Цемір-Кутлуй гнаў ліцьвінаў да Дняпра, "узяў з Кіева 3000 рублёў серабра літоўскага, а з манастыра Пячэрскага асобна 30 рублёў, пакінуў там сваіх баскакаў і, пагроміўшы Вітаўтавы вобласці да самага Луцка, вярнуўся ў улусы". (Н.М.Карамзин. История государства Российского).

Прыйшоў час расплачвацца за паразу. Вітаўт страціў дзве трэці войска, 20 князёў з 50. Украіна зноў абязлюдзела. І вось тут Ягайла нагадаў Вітаўту пра яго абавязкі і па Крэўскай вуніі і па Востраўскаму пагадненню, хаця па Крэўскай вуніі абавязкі браў сам Ягайла, як Вялікі князь.

Вітаўт аказаўся ў цяжкім становішчы. Амаль без войска ён не мог на гэты момант ігнараваць Ягайлу. Палякі патрабавалі новай вуніі, каб яшчэ больш абмежаваць самастойнасць ВКЛ. Вітаўт мусіў цягнуць час. Ішла вельмі складаная палітычная гульня. Палякам удалося навязаць Вітаўту вунію 18 студзеня 1401 года у Радаме (Польшча), так званая Віленска-Радамская вунія, але прайшло паўтара года. Нутраныя рэсурсы Княства дазволілі Вітаўту аднавіць вайсковую моц. Дыктата Ягайлы не адбылося. Праўда ён выгаварыў сабе тытул Найвышэйшага князя Літоўскага, але за Вітаўтам заставалася права самастойнага кіравання ВКЛ пажыццёва.

З гэтым "пажыццёва" звязана вялікая палітыка. На той момант ні ў Вітаўта, ні ў Ягайлы не было сыноў. Сутнасць пытання заключалася ў тым, хто каго перажыве, у каго з'явіцца нашчадак. Як мы ведаем выйграў тут Ягайла.

Разам з тым у выніку Ворсклы Вітаўт мусіў спыніць сваю паўднёвую і ўсходнюю экспансіі, мусіў заміж поўнага разрыву з Польшчай і вяртання абсалютнага суверэтэту ізноў прызнаваць вяршэнства Ягайлы. Другі раз аналагічная сітуацыя паўтарыцца пасля Грунвальда.

# СОНЕЧНЫ ГАДЗІННІК

## в. Ішчолна, Троіцкі касцёл (былы Лідскі павет, зараз Шчучынскі раён)

Пры ўездзе у веску бачны цагляны комін вышынёй каля 15 м былога вапнавага завода першай паловы 20-га стагоддзя.

Троіцкі касцёл знаходзіцца ў цэнтры вёскі. Пабудаваны у 1758 г. у стылі позняга барока з цэглы. Помнік знаходзіцца ў добрым і дагледжаным стане . Рыма-каталіцкі прыход заснаваны у 1515 г. і раней на гэтым мейсцы быў драўляны касцёл. Побач з сучасным касцёлам знаходзіцца званіца 19 ст. Касцёл аднанефавы, двухвежавы з пяціграннай апсідай і сакрыстыямі. Дамінантнае становішча ў аб`ёмнай кампазіцыі займае галоўны фасад. Фасадныя і бакавыя плоскасці вежаў аперазаны карнізамі.

Інтэр'ер касцёла зальны, асноўны аб'ём і апсіда перакрыты драўлянымі лучковымі скляпеннямі. Мае тры алтары і амбон. Амбон хвалепадобнай формы, дэкараваны ляпнымі ракайлямі і скульптурнай кампазіцыяй на біблейскія тэмы. Над галоўным уваходам збудаваны хоры з арганам.

Побач са званіцаю, на касцельным двары магіла падкаморага пружанскага Грабоўскага (1778-1857) і магілы знатнай павятовай шляхты.

З паўдзённага боку касцёла знаходзіцца сонечны гадзіннік 18-га ст. Ён уяўляе сабою круглы абчасаны пастамент з каменя вышынёю каля 1 м і дыяметрам каля 0,5 м. Двума сталёвымі стрыжнямі да яго прымацавана медная круглая пласціна дыяметрам каля 0,3 м. Трохкутняя стрэлка напалову зламаная. На пласціне выграваваны цыферблат, прозвішча майстра (J. Malecki), месца вырабу (Vilna), геаграфічная шырата (54* 41` 2`` ). **Сведчанні аб гадзінніку адсутнічаюць у даведніках.**





**Тыпы сонечных гадзіннікаў**

Гэты гадзіннік адносіцца да класу гарызантальных сонечных гадзіннікаў з трохкутняю стрэлкаю, верхні кут якой накіраваны на Палярную зорку. Цень ад стрэлкі падае на гарызантальны цыферблат, гадзінныя дзяленні якога няроўныя між сабою.

У нашай навуковай літаратуры інфармацыі аб сонечных гадзінніках амаль што няма. Але вядома, што ў 1736 г. у Нясвіжы быў напісаны на лацінскай мове курс пра выраб сонечных гадзіннікаў розных канструкцыяў.

Гадзіннік у в. Ішчолна адзіны ў Беларусі дзейны прыбор і ўяўляе сабою цікавы ўзор дакладнай механікі, выраблены ў беларускай Вільні ў 18 ст.



**Сонечны гадзіннік у вёсцы Ішчолна**

*Лявон Лаўраш,*
*Уладзімір Круцікаў.*

*Да 10-годдзя пастаноўкі ў Лідзе помніка Адаму Міцкевічу*

**Аляксандр Колышка**

# Ліда – Песняру

Ці быў Адам Міцкевіч калі-небудзь у Лідзе? Быць можа ездзіў праз Ліду з роднага Навагрудка да Вільні на вучобу. Горад да тога ж размешчаны пры даўнім паштовым тракце, які вядзе з Горадні да сталіцы Вялікага Княства. Ва ўсякім разе наш Пясняр дачакаўся ў Лідзе свайго помніка - сімвала польскасці і прывязанасці тутэйшых людзей да народных традыцый. Ён з'яўляецца чымсьці большым, чым толькі манументам, які аздобіў цэнтар горада. Гэта сапраўдны польскі помнік, пастаўлены супольна польскімі людзьмі, а не афіцыйна, уладамі горада. Ён быў зафундаваны праз ахвяраванні палякаў Лідчыны, і адкрыццё гэтага манумента, аўтарам якога з'яўляецца тады малады яшчэ скульптар з Менску Валеры Янушкевіч, адбылося 2 ліпеня 1989 года.

Памятаю, што падчас нашых першых спат-



**Арганізацыйны сход Лідскага аддзелу Польскага культурна-асветнага таварыства імя Адама Міцкевіча. Выступае Ганна Комінч.**

канняў у думках і размовах мільгала ідэя-мара, што добра было б паставіць помнік у гонар Песняра, у прыватнасці, тут у Лідзе. Не было яшчэ нічога канкрэтнага. На працягу паўгода мы змагаліся за рэгістрацыю нашага Клуба Прыхільнікаў Польскай Культуры. Хацелі ўзяць сабе імя Адама Міцкевіча, але на сходзе, у час, калі нас зарэгістравалі (13 снежня 1987 года), улады адмовілі нам у наданні імя Адама Міцкевіча і паведамілі, што яго імя трэба заслужыць. Тады я, у нейкім запале сказаў, што ў такім выпадку паставім помнік Міцкевічу ў Лідзе. Прапанова была прынята аднагалосна і пачалі працаваць.

Нашую ідэю з энтузіязмам падтрымаў галоўны архітэктар горада Казімір Янчук. Мы прапанавалі яму паставіць помнік у скверы, каля школы №4 пры вуліцы Міцкевіча. Праехалі ўсю вуліцу і разам прыйшлі да высновы, што гэтае месца найбольш адпаведнае. Калега майго брата Валеры Янушкевіч, які выканаў праект помніка Песняра для Навагрудка ў якасці дыпломнай работы, ахвотна пагадзіўся зрабіць таксама праект бюста Міцкевіча, як падарунак для Ліды.

Пачалася праца. Мы ў Лідзе збіралі па падпісных аркушах грошы. На сходах і па хатах, падчас усіх імпрэзаў выстаўлялі скарбонкі. Дзякуем усім, хто ўклаў свой грош у тую справу. У траўні быў гатовы праект у гліне і была падрыхтавана форма для адліўкі.

Шукалі кожную магчымасць для пераадолення бюракратыі. Былі ў Навагрудку ў мясцовым аддзеле архітэктуры, дзе таксама рыхтаваліся да пастаноўкі помніка Міцкевічу. Аднак, у Лідзе справа была іншая. Тут помнік ставілі людзі, польскія людзі, а не ўлада і, калі на пачатку ўсяго прадпрыемства прадстаўнікі гарадскога Савета глядзелі на ўсё гэта без засцярогі і са скептыцызмам, то, як дайшло да канкрэтных спраў, занялі негатыўную пазіцыю. Нядаўна ў сваіх архівах мы знайшлі адказ намесніка старшыні гарадскога Савета Ціхана Аўдзеенкі, у якім ён пісаў, што ў Лідзе ўжо спланавана пастаноўка помніка Леніну ў гарадскім парку, помніка па ўшанаванню памяці дзеячоў камуністычнага падполля, а таксама мемарыяльных дошак на Кургане Бяссмерця, і ў сувязі з гэтым адкрыццё помніка Міцкевічу не з'яўляецца абгрунтаваным і патрэбным. Сёння наш помнік стаіць, а пра тыя манументы, запланаваныя ўладамі, ніхто ўжо нават не згадвае.

У красавіку 1989 года быў гатовы фундамент пад цокаль, які супольна выканалі Часлаў Бурнос, Альфрэд Клімашэўскі, Тадэвуш Комінч, Віктар Насовіч, Людвік Пятрасін і Аляксандар Сямёнаў. Аднак Аўдзеенка ўсё цвярдзіў, што няма дазволу на ўстаноўку помніка. Архітэктурны праект выканаў галоўны архітэктар горада Казімір Янчук, а за ўсім аб'ёмам работ і здабыццём матэрыялаў наглядаў старшыня Казімір Ходар. Няма магчымасці назваць прозвішчы ўсіх, хто прыняў удзел у той працы, але нельга забыць пра старшыню Кола Таварыства ў Гудах Станіслава Ушакевіча, які даставіў камені пад фундамент, пра Станіслава Пацыну і Часлава Колышку - старэйшага. Шчыры Божа, аддзяч усім, хто працаваў пры ўпарадкаванні пляцу, хто дапамагаў здабыццю матэрыялаў і, нарэшце, тым, хто збіраў грошы.

Прапанова пра канкрэтную дату адкрыцця помніка ўзнікла дакладна за тыдзень да ўрачыстасці. Нашы дзеці ўпершыню выязджалі на адпачынак у Польшчу, а іх удзел быў для нас вельмі важнай справай. Гэты тэрмін быў таксама прычынаю таго, што не былі выкананы ўсе фармальнасці з атрыманнем згоды на тую ўрачыстасць і гарадскія ўлады выкарысталі гэта, жадаючы, каб урачыстасцю кіраваў мэр горада. У пярэдадзень адкрыцця мы паехалі ў Менск. Забралі адтуль гатовы помнік і на працягу некалькіх



Мантаж помніка Адаму Міцкевічу ў Лідзе

гадзін паставілі яго на тым месцы, на якім ён стаіць сёння, як сімвал моцы палякаў на гэтых землях.

Згодна з нашай просьбай у двух лідскіх касцёлах ксяндзы абвясцілі, што 2 ліпеня 1989 года адбудзецца адкрыццё бюста Адама Міцкевіча. Мы далі абвестку пра гэтую ўрачыстасць у мясцовай газеце.

Надышоў нарэшце той вялікі дзень. На наша шчасце ў той дзень было цудоўнае надвор'е. Я думаў, што на адкрыццё прыбудзе найбольш пяцьсот асобаў. Якое ж было маё здзіўленне, калі на пляц з'явілася каля пяці тысяч чалавек. Так як ніхто з лідскіх ксяндзоў не згадзіўся на асвячэнне помніка, мы былі вымушаны запрасіць ксендза з Польшчы. Да апошняй хвіліны не былі ўпэўнены, ці ксёндз Граляк з Радаму прыбудзе (прыехаў у Ліду каля дзвюх гадзін ночы). Справа ўдзелу ксендза ва ўрачыстасці была нечым незвычайным і нявыгадным для нашых уладаў. У нядзелю рана падчас узгаднення ў гарадскім Савеце дэталяў усёй урачыстасці ўлады прасілі, каб асвячэнне адбылося пасля таго, як яны адыдуць. Аднак ксёндз зламаў усе планы на лепшае, бо прыбыў пад помнік якраз у хвілю, калі мэр горада Сямён Домаш запаўняў аркуш прозвішчамі тых, хто жадаў выступіць і аказаўся на тым лісце адным з першых. Уявіце, калі ласка, вось такі малюнак: стаяць мэр горада і 1-ы сакратар партыі, а пасярэдзіне ксёндз Граляк і, калі ён прамовіў у мікрафон "Niech bendzie pochwalony Jezus Chrystus", натоўп замёр у шоку... А потым выбухнуў на адным дыханні: "Na wieki wiekow". Гэта было вельмі ўзрушна, таму што ў цэнтры савецкага горада, пры тысячах людзей, былі сказаны тыя словы, што яднаюць мільёны католікаў ва ўсім свеце. Затым ксёндз прамовіў прыгожае і ўсхваляванае казанне, фрагменты якога хачу працытаваць: " Калі святы Павел спыніўся ў Грэцыі, ён прачытаў там адзін надпіс "Невядомаму Богу" і сказаў да сабраўшыхся: "Пераканаўся, што вы людзі набожныя, бо ўзнеслі Богу вось гэты помнік, і я Яго шаную". Падобна таму, як апостал Павел, я таксама не спадзяваўся, што стану сёння тут перад гэтым помнікам Адаму Міцкевічу. Гэта постаць, якая з'яўляецца сімвалам еднасці і любові, а не нянавісці. Пан Езус сказаў: " Я - праўда і дарога жыцця". Тое самае сказаў Міцкевіч: "Пастарайцеся, каб для вас значэння не мела, хто якой нацыянальнасці і ідэалагічнай прыналежнасці. Чалавек па-над народамі, па-над партыямі. Пастарайцеся шукаць тое, што злучае". Я кірую ў Польшчы рэлігійным гуртом, тут са мной дзве спявачкі з таго гурта. Каля дзесяці гадоў мы ездзім па свеце і неўзабаве выбіраемся ў Канаду. Я там раскажу пра гэтыя ўрачыстасці ў Лідзе. Скажу: "Прыехаў. Убачыў. Бог перамог. Убачыў і таму дазвольце мне адысці ў спакоі. Бо мае вочы ўбачылі". Больш нічога не скажу".

Потым ксёндз Граляк узяў гітару і пачаў на вачах усяго натоўпу граць, выклікаючы велізарнае здзіўленне і захапленне. Усе былі шакаваны тым, што ксёндз іграе на гітары, а іграў ён так прыгожа, што калі скончыў, людзі не хацелі яго адпускаць, тым не менш мусіў перастаць, бо мэр горада, які стаяў побач пастаянна падганяў нашага старшыню, каб як найхутчэй скончыць гэтую ўрачыстасць. Відавочна, мэр бачыў, як на яго вачах натоўп неарганізаваных людзей ператвараецца ў некалькі тысяч палякаў. Потым спявалі нашыя, перш за ўсё польскія дзеці з Ліды, якія вывучаюць польскую мову. Людзі, якія стаялі побач, пыталіся адзін у другога, з якога горада прыехалі тыя дзеці і не маглі паверыць, што гэта нашыя дзеці. Падчас урачыстасці, якая сталася польскім святам у Лідзе, наша Таварыства арганізавала продаж польскіх кніжак. Лідзяне купілі тады вельмі шмат такіх кніжак. Быць можа, польская кніга для тых пакупнікоў сталася пачаткам шляху да адкрыцця польскіх карэнняў.



Падчас адкрыцця помніка

Гэта першы помнік на тэрыторыі СССР, які быў пастаўлены ў гонар Вялікага Паляка яго суродзічамі. Стаў Вялікі Адам у Лідзе. Стаў назаўсёды. У першыя дні пасля ўрачыстасці прыходзілі пад помнік, каб убачыць, як маецца наш Адам. Як жа цешыцца зараз сэрца, калі бачыш, як па шлюбе маладыя ўскладаюць кветкі да гэтага помніка, як прыязджаюць экскурсіі. Штогод на куццю пад помнік прыходзяць лідзяне, каб падзяліцца калядою, заспяваць калядкі, задэкламаваць заўсёды жывыя вершы нашага вялікага Суродзіча.

Такім чынам Ліда ўшанавала памяць Песняра і дала доказ сваёй прывязаннасці да польскасці.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

В. Ампілаў
В. Сьмірноў

# У МАЛЕНЬКІМ ГОРАДЗЕ ЛІДЗЕ...

( Працяг. Пачатак у №№ 1-7)

## Апошняе заданне

Марознай ноччу Алесь Клімко пастукаўся ў хату Аляксандры Іосіфаўны:

- Роберт дома?

- У сябе.

Алесь, уваліўшыся ў пакой, выцер далонню ўспацелы твар, расшпіліў ватоўку, аддыхаўся:

- Быў Жукаў. Загадаў адвесці вас у лес. Каля хаткі Майсевіча Коннаў вас чакае.

Коннаў быў камандзірам самага буйнога партызанскага аддзела, што ўваходзіў у Лідскае злучэнне.

- Кажуць ёсць асаблівае даручэнне гаркама.

Роберт спешна апрануўшыся і засунуўшы ў кішэню “вальтар”, следам за Алесем выбег на двор.

- Паспеем да світання?

- Павінны паспець.

Талы, пакрыты ледзяністай скарынкай снег здрадніцкі хрумсцеў пад нагамі. Нарэшце яны выслізнулі за гарадскую ваколіцу ў поле. Ледзьве прыкметнай сцяжынкай, добра знаёмай Алесю, сябры выйшлі на ўзлесак.

Байцы з партызанскай варты сустрэлі Роберта і Алеся на дарозе, адвялі па лясных сцежках, цераз твань, на сухую, парослую асіннічкам паляну. Там каля зямлянкі стаялі пакрытыя гунькамі партызанскія коні.

Прыземісты, шыракаплечы Коннаў, паклаўшы на стол чырвоныя, задубелыя на марозе рукі, уважліва слухаў паведамленне Роберта. Роберт далажыў пра апошнія дзеянні групы, пра сувязі, устаноўленыя з падпольшчыкамі гета, пра падрыў бензасховішча.

Камандзір быў па-дзелавому сухі, стрыманы ў выказваннях - разумеў, што госці вядуць лік часу на хвіліны.

- Таварыш Роберт, справа ў нас наступная. Мы павінны цалкам разграміць Лідскі чыгуначны вузел. Першы ўдар нанясе ваша група. Трэба ўзарваць чыгуначную электрастанцыю. Выконваць заданне даручана вам, таварыш Роберт. Пасля дыверсіі сыдзеце ў лес, будзеце ўзначальваць нашую агентурную працу ў асобым аддзеле. Вам тут усе карты ў рукі. Вы, Клімко, застанецеся кіраўніком падпольнай групы на станцыі.

Апошняе партызанскае заданне аказалася і самым цяжкім. Для таго каб выканаць яго, Роберт павінен быў пранікнуць на электрастанцыю. Гэтая электрастанцыя была адзіным энергетычным цэнтрам у горадзе. Яна сілкавала не толькі чыгунку, але і ўсе прадпрыемствы ў Лідзе, а галоўнае, авіяцыйныя майстэрні пры вайсковым аэрадроме. Немцы абнеслі станцыю калючым дротам. Каля ўваходу дзень і ноч дзяжурылі ахоўнікі.

Атрымаць прызначэнне на электрастанцыю можна было толькі ў гэбітс-камісарыяце.

Роберт адважыўся на смелы крок. Ён накіраваўся з візітам да самога гэбітс-камісара горада, каб выпрасіць у яго прызначэнне на электрастанцыю. Ён ведаў, што на чыгуначнай станцыі яму дадуць самыя лепшыя рэкамендацыі. На той час Роберт заваяваў надзейны аўтарытэт сярод немцаў і карыстаўся іх даверам. Дзякуючы рэгулярным выступленням з Бубай у канцэртах самадзейнасці, яго ведала зараз уся залога. Але, як бы там не было, рызыка была вялікая. Прадбачачы магчымую няўдачу, Роберт развітаўся з Алесем і ўсімі падпольшчыкамі.

Гэбітс-камісар, выслухаўшы Сасноўскага, адрывіста рассмяяўся, падкідваючы на далоні касцяны нож для разразання паперы:

- Усе хочуць працаваць на электрастанцыі. Там добра плацяць.

Ханвегу ўжо даводзілася бачыць Сасноўскага на гарадскіх канцэртах і ў клубе, куды Роберта запрашалі як тапёра. Гэбітс-камісар быў настроены добразычліва. Аднак засцярога не перашкаджала. Ханвег зняў слухаўку і папрасіў да тэлефона шэфа чыгуначнага вузла. Кукелка адказаў, што Сасноўскі праявіў сябе з найлепшага боку.

- Дык кажаш, ты інжынер? – спытаў гэбітс-камісар.

- Так. У мяне іншыя запатрабаванні, чым у простых рабочых, гер гэбітс-камісар. Вайна вайной, а хочацца жыць па-людску.

Ханвег з разуменнем кіўнуў галавой.

- Добра, пойдзеш на электрастанцыю памочнікам качагара. Калі пакажаш сябе добра, станеш качагарам. Ідзі.

Роберт выйшаў з гэбітс-камісарыята з паперкай у руках. На паперцы - нямецкі арол, які ўчапіўся ў свастыку, і два касыя спешныя радкі: " Гер Зонс! Накіроўваю ў ваша падпарадкаванне. Ханвег."

## “Цуцкайце неадкладна!”

**З дзённіка Роберта Сасноўскага:**

“Дні ідуць. Я працую на электрастанцыі ў інжынера гера Зонса. Інжынер сустрэў мяне непрыветліва. Зонс – кульгавы немец са знешнасцю аскета. Твар у яго хударлявы і мёртвы, як маска. У першы дзень ён загадаў мне надраіць усе мядзяшкі ў машыннай зале.

Зала велізарная, у ёй пыхкаюць некалькі машын Ланца. Дванаццаць гадзін я гнуў спіну, націраючы мядзяшкі. Зонс, пакурваючы люльку, сачыў за мной з балюстрады другога паверху, дзе размешчаны пульт. На другі дзень інжынер загадаў мне заraўняць вялікую выбоіну ў бетоннай падлозе. Ён і тут істуканам стаяў нада мной, правяраючы работу. Добра, што мне раней, на практыцы ў інстытуце, даводзілася займацца падобнай работай – жалязненнем. Латка

выйшла ідэальная. Зонс доўга разглядаў падлогу і наступаў на мяккі яшчэ бетон. Быдла! Я вымушаны быў пачаць работу спачатку.

У маёй змене звычайна працуе качагар Сямён Паўлаў. Гэта рослы і дужы селянін са скуластым свежым тварам. Пра такіх кажуць: "Сабе на ўме". Быў у Чырвонай Арміі, дастаткова развіты і выдатна разумее, што "немцы рускіх не адужаюць". Аднойчы я паказаў яму партызанскую газету з апоupedам пра Сталінградскую бітву. Паўлаў прачытаў і сказаў: "Добра". Думаю, што ў вырашальны момант я змагу спадзявацца на качагара.

Тол, падрыхтаваны для падрыву на кватэры, у каморы. Аляксандра Іосіфаўна і не здагадваецца, які небяспечны "тавар" я купіў на рынку разам з бульбай. Кожную раніцу, накіроўваючыся на працу, я старанна засыпаю тол у кішэні. Але асноўны "сродак" для транспартавання толу – мае нямецкія чаравікі на тоўстай драўлянай падэшве. Я спецыяльна набыў іх у аднаго немца. Чаравікі на пяцёрку памераў большыя за тыя, што я нашу. У кожны чаравік уваходзіць грамаў дзвесце – трыста парашку толу.

З асцярожнасцю перастаўляючы ногі я сунуся ад дома да прахадной. Тут два ахоўнікі аглядаюць мяне. Абшуквалі толькі ў першыя дні. Немцы не ўпускаюць выпадку пасмяяцца над чаравікамі. У мяне сапраўды смешны выгляд у гэтых грымотных танках. Ахоўнікі, падміргваючы, пытаюцца, ці не згодны я абмяняць чаравікі на іх хромавыя боты. Я адказваю, што згодны і раблю выгляд, быццам збіраюся зняць чаравікі. Немцы рагочуць...

На двары я высыпаю тол у мяшок, які захоўваецца ў вугальным бункеры. Добра, што бункер схаваны за глухой сцяной станцыі. Тут я магу раззуўшыся ссыпаць свой груз. За гэтыя дні я паспеў сабраць каля чатырох пудаў толу.

У гэтыя дні я ні з кім не сустакаюся. Не бачу ні Алеся, ні Машу, ні Жукава. Думаю толькі пра адно: "Хутчэй, хутчэй, хутчэй. Падарваць і да сваіх, у лес. Я ўжо апавясціў Жукава, што падарву станцыю ў канцы сакавіка ці, самае позняе, у пачатку красавіка".

13 сакавіка перакладчыца Зося Вішнеўская, накінуўшы на плечы кажушок, выйшла з канторы і па пратоптанай у снезе сцяжынцы заспяшалася да электрастанцыі. Ахоўнікі, якія за размовай бавілі гадзіны дзяжурства, ажывіліся, убачыўшы белакурую польку.

- Шэф патрабуе Сасноўскага, - коратка сказала Зося.

Адзін з ахоўнікаў кінуўся выконваць загад. Праз хвіліну Роберт у сваіх чаравіках няўклюдна крочыў услед за перакладчыцай.

- Вы можаце не хадзіць у кантору, - не аглядваючыся сказала пані Зося. – Гэта я вас выклікала. Слухайце ўважліва. Учора на станцыю патаемна прыбылі немцы з "Абвергрупы трыста сем". Гэта контрвыведка. Я падслухала іх размову. Яны гаварылі пра вас. Відаць хутка вас арыштуюць. Уцякайце неадкладна.

Пані Зося прыпынілася. Зараз з прахадной іх не бачылі. Яны стаялі каля насыпу. Манеўровы паравоз праехаў міма, абдаўшы іх параю.

- Я не ведаю, хто вы,- сказала перакладчыца.-- Але я веру вам. Вам здаецца дзіўным, што... Словам, вы, напэўна, дрэнна пра мяне думаеце. Напэўна, мы ніколі не ўбачымся. Прашу вас, не думайце пра мяне кепска.

Яна працягнула Сасноўскаму руку ў лайкавай пальчатцы. Ад пані Зосі пахла дарагімі духамі. Рука пані лягла ў шырокую, моцную далонь Сасноўскага.

- Прашу вас, не думайце пра мяне кепска! - паўтарала перакладчыца.

- Дзякуй вам за ўсё, - сказаў Роберт.

- Вы слаўны чалавек, - сказала Зося. – Яшчэ калі вы ўпершыню прыйшлі да шэфа...

Тупат ботаў перапыніў пані Зосю. Прызначэнне нямецкіх вартавых, адбіваючы крок ішло ўздоўж насыпу на развод.

- Бывайце, - сказала перакладчыца. – Бывайце. Калі ласка, не думайце пра мяне кепска.

## *У лес*

**З дзённіка Роберта Сасноўскага:**

"Зося Вішнеўская мела рацыю. Мы больш не сустрэліся. Я чуў, што потым яна нечакана знікла. Я так і не змог даведацца, што прымусіла яе пайсці да немцаў. Мы ж рэдка сустракаліся. Аднойчы размаўлялі пасля канцэрта, але гэта не зблізіла нас. Зося адчувала сябе вельмі скована. Верагодна, асцерагалася, што я ёй не давяраю. Так, уласна, так яно і было. Я часта ўспамінаў пані Зосю і спадзяваўся, што мы ўсё-такі сустрэнемся, але гэтага не адбылося.

У той дзень, 13 сакавіка, я паспеў сказаць ваеннапалонным, каб яны ўсе неадкладна сыходзілі ў лес. Алеся я не ўбачыў, але, на шчасце, каля сталовай сустрэў Машу і расказаў пра "абвергрупу".

- Таварыш Роберт, - сказала Маша, я ведаю гэтых немцаў. Іх шэсць чалавек і гестапаўцы з імі. Яны абедалі ў мяне.

- Пастарайся падслухаць, што яны гавораць, - парадзіў я. Кастраміна на той час ужо дастаткова добра ведала нямецкую мову.

Маша выглядала ўсхваляванай. Не за сябе баялася – за Алеся.

- Уцякайце і вы, таварыш Роберт, - сказала Маша, - уцякайце. А мы як-небудзь пастараемся..

Я моцна абняў Машу. Цяжка ім давядзецца, гэтым дзяўчынкам і хлапчукам. Маша заплакала.

- Ну, навошта слёзы... Усё будзе добра.

Што я яшчэ мог сказаць, акрамя гэтай фразы? Цяжка было і мне расставацца з сябрамі.

Я не сышоў з Ліды ў той вечар. Не мог пакінуць электрастанцыю цэлай. Партызанскае камандаванне прыдавала асаблівае значэнне нашай дыверсіі. Абдумаўшы становішча, я прыйшоў да высновы, што немцы не будуць спяшацца з арыштамі. Па-першае, у іх не магло быць наўпроставых улік. Па-другое, спачатку яны ўстанавілі б слежку. У маім распараджэнні заставаўся адзін вечар. Шасцідзесяці кілагра-

маў толу, які я паспеў прынесці ў бункер магло не хапіць для поўнага знішчэння станцыі. Але разлік паказваў, што, калі падняць ціск у катлах, то яны маглі здэтанаваць і падвоіць сілу выбуху.

Я па-хуткаму забег у хату, апрануўся пацяплей. Аляксандра Іосіфаўна і яе дзеці Вальдак і Ванда са здзіўленна назіралі за маімі спешнымі зборамі.

Шмат клопату прынёс я гэтай дружнай сям'і. Зараз яны мусілі перажыць з-за мяне вельмі непрыемныя хвіліны. Пасля выбуху сюды ўварвуцца гестапаўцы. Я выклікаў гаспадыню ў сені.

- Аляксандра Іосіфаўна, бярыце дзяцей, усё неабходнае і ўцякайце. У вас ёсць у вёсцы сваякі?

- Добра, я зараз жа пайду,- пакорна адказала Аляксандра Іосіфаўна. -- Хіба я не разумею?

Колькі нам, падпольшчыкам, даводзілася сустракаць вось такіх выдатных памочнікаў – сапраўдных савецкіх людзей, непрыкметных з выгляду, маўклівых, сціплых. Якой вызначаліся яны самаахвярнасцю, смеласцю, якім высакародствам! Не будзь іх падтрымкі, хіба маглі б мы дасягнуць поспеху?.. Многія з іх не маглі змагацца супраць захопнікаў са зброяй у руках. Але іх нянавісць выдівалася ў нашых дзеяннях...”

Вярнуўшыся на электрастанцыю з дома Аляксандры Іосіфаўн, Роберт адклікаў у бок Сямёна Паўлава. Качагар, заклаўшы за спіну вузлаватыя моцныя рукі, моўчкі выслухаў таварыша.

- Так, Сямён, вырашай сам. Сёння я падрываю электрастанцыю. Хочаш – ідзём да партызан, не хочаш – не блытайся пад нагамі. Думаць няма калі.

Паўлаў, зморшчыўшы скуласты твар, ўсё ж патраціў некалькі секунд на роздум.

- Добра,- нарэшце сказаў ён.–Давай, камандуй.

У зале гулі, адпыхваліся параю машыны. Жаўнер з аховы драмаў пад балюстрадай. Зонс, які сядзеў наверсе, каля пульта не мог яго бачыць. Роберт зняў чаравікі, якія грукаталі па бетону, у ваўняных шкарпэтках нячутна падышоў да вартара. Узяўшы аўтамат, кіўнуў Паўлаву – той навалiўся на ахоўніка, сціснуў немца сваімі лапішчамі.

Інжынер, не пачуўшы пад балюстрадай ні гуку, нечакана ўбачыў перад сабой рулю "шмайсера" Паўлаў, абшукаўшы немца, выцягнуў пісталет, моўчкі прывязаў дыспетчара да крэсла і засунуў яму кляп з кудзелі: сядзі.

Ужо прабіла дванаццаць. Даводзілася спяшацца. Паўлаў раз'ятрана кідаў вугаль у гарэльні, што шугалі белым полымем. Ціск у запасных катлах рос. З трох атмасфер ён ужо падняўся да дзесяці, а стрэлкі манометраў працягвалі свой рух. Паўлаў раз-пораз пагдядаў на прыборы – чакаў, калі стрэлкі дойдуць да чырвонай рысы. Роберт, сагнуўшыся пад цяжарам мяшка ўнёс узрыўчатку ў машынную залу, залажыў яе пад цэнтральнаю машынаю. Паўлаў махнуў рукой: пары падняты да мяжы. Пара. Роберт запаліў фіціль прыклаў да бікфордавага шнура.

Па двары падпаўзлі да дроту. Запстрыкалі вострыя зубы кусачыкаў. Праз пяць хвілін ужо несліся ў цемнаце па вуліцах Ліды. Спатыкаліся, падалі на слізкай дарозе. Шашу перапаўзлі па-пластунску, асцерагаючыся патрулёў. Краем могілак прабраліся да рэчкі Лідзейкі, скованай тонкім лядком.

Роберт глянуў на гадзіннік. Прайшло дванаццаць хвілін.

- Сёма, калі выбуху не будзе, я вярнуся...

І тут убачылі: там, дзе быў будынак электрастанцыі, цемнату раскалоў агонь. На языках полымя паднялася страха і стала падаць, развальваючыся на кавалкі. Запознены грукат выбуху страсянуў паветра, і ўслед за выбухам завыла сірэна. На шашы пачуўся гул матораў.

Раздзеліся, абрываючы гузікі і ў адной бялізне кінуліся ў Лідзейку. Распіхваючы далонямі калючы лядок, перайшлі рэчку ўброд, трымаючы над галавой клункі з вопраткай. Роберт моцна замёрз. Паўлаву давялося ўсцягваць таварыша на бераг. Тут чакала іх неспадзеўка – балота, што цягнулася ад левага берага Лідзейкі чуць не да самага ўскрайку лесу, паспела растаць.

Распранутыя, правальваючыся раз-пораз у вокны, чапляючыся за купіны, на едкім марозным ветры каля гадзіны яны ішлі па балоце. Задыхаліся. Кожная хвіліна запавольвання магла каштаваць ім жыцця. І не ад немцаў зыходзіла ўжо небяспека, а ад гэтага, прапахлага гніллю здрадніцкага балота.

Калі выбраліся да лесу, хапіла сілаў апрануцца. Але цяплей не стала, намоклая бялізна марознай пякучай бранёй скавала цела. Пра касцёр не магло быць і гаворкі. Напружваючы апошнія сілы, пабрылі лесам да Васілевічаў – вёскі, дзе маглі сустрэць партызан.

**З дзённіка Роберта Саснօўскага:**

“Партызан мы ўсё-такі адшукалі. А на наступны дзень я зваліўся ў гарачцы. Памятаю твар чалавека ў белым халаце, які схіліўся нада мной. Дзе я мог бачыць яго? Памяць падказала ўсё-такі: тэрапеўт Ківілевіч, а сустрэліся мы ўпершыню ў гета. Значыць, парадак. У партызанскім шпіталі...

Доўга я праляжаў. Досвед дактароў і лекі, якія паступалі з Ліды, дапамаглі мне ўстаць на ногі. Аднак я быў яшчэ вельмі слабы. Цяжкае запаленне лёгкіх не прайшло без наступстваў.

Летам 1943 года наш аддзел павінен быў ісці ў Летуву. Фашысты пачалі блакаду беларускіх лясоў. Партызаны ледзве стрымлівалі націск карнікаў. Асцерагаючыся акружэння, камандванне загадала аддзелу адысці ад Ліды. Рэйд трэба было правесці спешна, інакш аддзелу пагражала пагібель.

Мяне і іншых хворых і параненых пакінулі ў Налібокскай пушчы, недалёка ад Ліды. Партызаны адвялі нас на выспачку пасярод балота. Выкапалі там зямлянку, пакінулі зброю, баепрыпасы і адзінаццаць нягожых конікаў для пракорму. Разам з намі застаўся доктар Міхаіл Гордзін. Байцы пайшлі, разбурыўшы за сабою гаць, якая вяла цераз балота.

Камандзір аддзела меркаваў вярнуцца праз некалькі тыдняў. Аднак прайшоў месяц, прайшоў і другі, а вестак ад партызан не было. Мы з'елі конікаў і поўзалі па балоце збіраючы журавіны. Мы былі адрэзаны ад усяго свету, нічога не ведалі пра лёс аддзела. Надоўга згубілася сувязь з Жукавым, Алесем і яго сябрамі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Адам Міцкевіч*

# ГРАЖЫНА

Пераклад Сяргея Дзяргая



Цемра ды вецер, ды стынь на абшары,
Доле - туман, а высока-высока,
У каламуці раз'юшанай хмары,
Месяц няпоўным паблісквае вокам;
Свет, нібы склеп, змураваны з камення,
Неба ж над ім, як глухое скляпенне.
Цемра паўночная. Ранне далёка.

Ля Навагрудка, на ўздыбленных горах, -
Замак у месяца срэбным зіхценні;
Вал здзірванелы схаваўшы, сувора
Волатаў-вежаў ламаныя цені
Падалі ў роў, дзе між вечнай цясніны
Дыхалі воды, затканыя цінай.

Замак заснуў – ні агню і не дыху,
Толькі на вежах бяссонная варта
Воклічам цішу палохае ўпарта;
Раптам дайшло вартавому да слыху:
Постаці нейкія нібы, на гонях…
Чорныя цені за імі гурбою…
Блізка ўжо… скачуць учвалам на конях…
Панцыры ззяюць і бразгае зброя.

Коней іржанне і цокат падковаў;
Рыцары, грох іх, ужо каля рова,
Едуць, спыніліся, голас падалі,
Трубы мядзяныя ўночы зайгралі –
Раз і другі раз зайгралі і трэці,
Варта ім з вежаў адказвае рогам,
Грымнула брама, походня ім свеціць,
Падае мост, і яны - за парогам.

Бегла да брамы, спяшалася варта:
"Хто тыя людзі, з мэтай якою?"
Першы быў волат, узброен не жартам,
Немец заўжды так узброен да бою:
Меў чорны крыж ён на белай капіцы,
Крыж на грудзях ў залацістай пятліцы,
Трубку мядзяную, дзіду у току,
Чорны ружанец і шаблю пры боку.

Цямяць ліцьвіны: нямецкая цацка!
Шэпча адзін і другі за ім шэпча:
"Пёс гэты, пэўна, са псярні крыжацкай –
Тоўсты, бо штодзень кроў прускую хлебча.
О, каб людзей тут не гэтак багата!
Знішчыць-бы гэтага гада павінны -
Раз, ды пад мост, — па заслугах адплата"…
Так між сабою шапталі ліцьвіны;
Пераемыкнуў толькі немец плячыма –
Людскую мову ён ведаў, магчыма.

"Князь ваш у замку?" - "У замку, ды надта
Ваша пасольства з'явілася позна…
Спіць князь - дарэмная часу утрата.
Заўтра магчыма"… — "Нам заўтра няможна!
Сёння і зараз жа. Час хоць і позны,
Мусіце вы пра пасольства данесці,
Я на сябе бяру гнеў яго грозны…
Гэты, для знаку, дасцё яму персцень;
Герб Літавор на пярсцёнку пабачыць
Герб Літавору усё растлумачыць".

Замак спіць. Спяць навакольныя межы.
Поўнач, асенняя ночка даўгая!
Толькі яшчэ ў Літаворавай вежы
Зоркай агеньчык з-за крагаў міргае:
Позна да дому вярнуўся з дарогі –
Вочы ледзь бачаць ужо ад знямогі.

Хоць і не спіць ён, ды вельмі суровы…
Ані хто з варты, за справай такою,
Ані хто з рады ці шляхты дваровай
Князя свайго не парушыць спакою.
Доўга паслы пагражалі, прасілі –
Грозьба ці просьба – дарэмны патугі!
Кажуць, каб Рымвіда ім пабудзілі,
Рымвіда, урэшце, паклікалі слугі;
Быў ён у князя помочнік адзіны -
Княжае войска вадзіў ён да бою,
Радаю правіў - любою гадзінай
Вольны ўваход меў да князя ў пакоі.

Цёмна ў пакоі, на століку чадна
Чах каганец, мітусіліся цені;
Штось з Літаворам сягоння няладна -
Крочыць, маўчыць, а пасля ў задуменні
Слухае. Рымвід пра немцаў гавора,
Словы не могуць крануць Літавора,
Ён чырванее, ўздыхае, бялее,

Твар удае, што ад думак ён млее.
Вось каганец, каб паправіць, бярэ ён,
Але не правіць – глыбей яго ціспе
І пагасіў (толькі кнопік курэе)
Ці выпадкова, ці, можа, наўмысна.

Пэўна не мог ён схаваць хвалявання,
Ведаў – яно на ягоным абліччы
І не хацеў, каб слуга быў у стане
Уразумець яго план таямнічы;
Зноў па пакоі ён крочыў і крочыў,
Потым спыніўся і стаў ля акна ён,--
Бачна – у водбліску месячнай ночы
Сутарга твар яго перасмыкае.
Бачна, як ззяюць маланкамі вочы,
Вусны заціяты, нахмураны бровы,
Бачна, які загарэлы, суровы.
Потым. У кут адышоўшы са спехам,
Дзверы замкнуць загадаў у пакоі,
І так пачаў ён з фальшывым спакоем,
Словы свае прыпраўляючы смехам:

"Сам-жа ты з Вільні прывёз мне, Рымвідзе,
Вестку, што Вітаўт вяльможны, ласкавы
Князем хацеў пасадзіць мяне ў Лідзе,
І па пасажнай па жонцы дзяржаве,
Нібы здабычу сваю, для пакоры,
Княства маё, сёння Вітаўт мне дорыць".—
"Так, праўда, княжа!" " А мы вось на дары,
Як і належыцца, выступім годне;
Хай сцяганосцы выносяць штандары,
Хай-жа запаляць агні і паходні,
Хай трубачы ў гэты-ж час выязджаюць,
Едуць ў горад і, стаўшы на рынку,
Аж на чатыры вятры заіграюць;
Хай яны трубяць датуль без спачынку,
Покуль іх голас мне войска абудзіць.
Хай кожны рыцар бранно сваю ўладзіць
Меч загартуе і дзіду асадзіць.
Коні хай будуць гатовы і людзі:
Рыцараў жонкам, нявестам прынесці
Харч, каб хапіла ад рана да змроку,
Коней на месца ўсіх з пашы прывесці
Ды, накарміўшы, трымаць іх на воку.
І калі сонца з-за Шчорсаў заззяе,
Калі асвеціць магілу Мендога,
Хай там на вуліцы Лідскай чакае
Войска, гатовае ў бой і ў дарогу".

Князь замаўчаў. І нібыта размовы
Толькі й было, што пра зборы ў дарогу.
Але чаму ён пахмуры, суровы,
Голас дрыжыць і хавае трывогу?
А калі кідаў ён слова за словам,
Беглі яны так нязграбна, не скора,
Быццам іх выбегла толькі палова,
Рэшта ж захрасла ў грудзях Літавора.
Нешта нядобрае ў постаці князя,
Нешта нядобрае мае на ўвазе.
Змоўк Літавор і нібыта чакае,
Што Рымвід пойдзе выконваць загады,
А Рымвід толькі вачамі блукае,
Нема стаіць – не знаходзячы рады;
Князевы думкі чытаць ён умее,
Цяжкую праўду у іх разумее.

Што тут пачаць? Літавор не ахвочы;
Слухаць чужыя намовы, парады;
Робіць заўсёды, як сам ён захоча,
Тоячы ў сэрцы намеры ад здрады;
Вырашыць раз і тады ўжо не збоча
І не папросіць памогі, спагады.
Рымвід, дарадца і сябр Літавораў,
Рыцар вядомы літоўскай дзяржавы,
Ганьбу заслужыць і горыч дакораў,
Як не ўратуе агульнае справы.
Змоўчаць? Параіць? Варожыць на двое.
Ўрэшце адважыўся ён на другое.

"Князь, перад воляй тваёю мы немы.
Людзі і коні гатовы да бою.
Шлях пакажы, і гатовыя ўсе мы
Днём я ці ноччу ісці за табою;
Рымвід, павер мне, не будзе астатні.
Але аднолькавай меркай не мерай
Розум людзей з грамады гэтай шэрай
І розум тых, хто на большае здатны.
Бацька твой, нават, хоць ён сам сабою
Даць намагаўся дням прошлым асновы,
Перш чым на ворага рушыць са зброяй –
Раду склікаў, каб пачуць яе словы.
Часам і мне там, між мудрых і важных,
Собіла думкі выказваць адважна.
Вось і цяпер я скажу табе смела
Тое, што вуснам душа падказала,
Шмат я пражыў, галава пасівела –
Славы, чыноў дасталося нямала.
Новую справу задумаў ты, княжа,
Шкодную справу, як сэрца мне кажа:
Лідскае княства, што маеш па праву,
Хочаш узяць праз ліхую прыгоду,
Будзе ў бяду твой паход, а не ў славу,–
Новым і даўным падданым на шкоду:
Першыя – скарбы здабудуць чужыя,
Рабства, кайданы здабудуць другія.

Вестка разыдзецца з краю да краю,
Ненавісць вышэй хціва зерне,
Горкі дасць плод яно ўрэшце і церне,
Што труціць славу і згоду знішчае.
Скажуць: парушыў князь праў сваіх межы -
Тое узяў, што яму не належыць.

Колісь інакш было: князі ліцьвіны
Родны свой горад сталіцай рабілі…
Добры быў звычай і тыя гадзіны
З памяці нашай у небыт не сплылі.
Дай, князь, ісці шляхам даўнім падзеям,
Здайся на Рымвіда - не падвядзе ён.

Перш-наперш рыцараў мы папярэдзім,—
Тых, што ў горадзе тут пад рукою,

Тых, што на вёсцы шукаюць спакою,—
Зараз-жа ў замак хай кожны з іх едзе;
Панства-ж і рада няхай у пакоях,
Дзеля бяспекі і дзеля аздобы,
Каля тваёй будуць княжай асобы.

Я ж, не марудзячы, рушу тым часам
Хоця ж бы заўтра, на золаку, рана
З слуг грамадою, з святым капеланам,
І з пачастункаў вялікім запасам –
Ладзіць ўсё, каб хапіла народу
Добрай дзічыны і добрага мёду.

Добрае, хіба, народ толькі бачыць!
Не, і шляхецтва за ім у пагоні:
Ласку убачыўшы ў княжай далоні,
Прышласць сваю загадзя ўжо тлумачыць;
Гэтак было і ў Літве, і на Жмудзі,
Вось хоць старыя раскажуць хай людзі".

Скончыў і кінуў за вокны вачыма:
"Вецер. Пагоды не будзе, магчыма.
Бачу каня там пад вежай у цені,
Рыцара бачу, — трымае паводдзе,—
Вось і другі да яго падыходзіць;
Немцы...пасольства...пазнаў па адзенню.
Ці іх паклікаць, ці хай там на доле
Вусны слугі скажуць ім тваю волю?"

Нібы ў акно ён глядзеў выпадкова,
Нібы выпадак – і погляд, і слова,
Але наўмысна ён ставіў пытанне,
Каб пра пасольства ўсё ведаць дазвання.

І Літавор адказаў яму : "Дружа,
Не, калі рады якой патрабую,
Не давяраюся іншым я дужа,
Рымвіда слухаю і не шкадую,
Бо ён пашаны і гонару варты –
Мудры на радзе і ў бойках упарты.

Дзёрзкі намер не люблю я бясконца
Людзям да часу паказваць на вока;
Думку, што стоена ў сэрцы глыбока,
Шкодна са змроку выносіць на сонца.
Хай мой намер, як з маланкай бывае—
Блісне пасля, а раней забівае.
Тайнай з табой падзяліцца жадаю:
Заўтра ідзём супраць Русі і Жмудзі;
Што, быць не можа? І можа, і будзе.
Сёння я сэрца табе адкрываю.

Даў я загад: усім брацца за зброю,
І каб спяшаліся на дапамогу,
Бо Вітаўт, ведаю, гэтай парою
Пэўна заняў ужо з войскам дарогу.
Мо́жа, і Ліду мне дорыць ён, быццам,
Каб, падманіўшы, зладзіць ці забіць там…
Але з магістрам тэўтонскім, не ў звычай,
Зараз зрабіў я таемную згоду:
Рыцараў дасць ён сваіх для паходу,
Я ж аддару іх багатай здабычай.
Бачу пасольства... ў тэўтонскім убранні...
Значыць, трымае магістр абяцанні.

Покуль схаваюцца зоркі пад ранак;
Рушым ліцьвінаў, дадаўшы у полі
Конных тры тысячы ў бронь закаваных
І кнехтаў пешых у два разы болей.
Кнехт дужы целам, вышэй за ліцьвіна,
Мечам валодаць умее страшэнна,
Дзіда навострана ў кнехта адменна –
З ног да чала у жалезе дружына;
Сам сабе выбраў, як быў у магістра,
Хлопаў адборных і коннікаў быстрых.

Мае кнехт кожны змяю за плячыма,
Волавам, сажаю корміць змяю ён,
Потым падпаліць – трываць не магчыма –
Гром і агонь... так змяёй і ваюе;
Толькі на ворага вокам ён гляну –
І ці забіў, ці смяртэльна параніў;
Так быў забіты ў час абароны
Дзед Гедымін наш на сценах Велоны...

Вітаўт, відаць, занядбаў асцярогу,
Войска нямнога ў Лідзе. Хістанне
Тут не дарэчны, і заўтра ў дарогу
Рушым і возьмем і знішчым дазвання".

Рымвід уражаны быў навіною,
Нібы застыў, анямеў нерухомы;
Буру прадбачыў, і лёс невядомы
Мечам вісеў над радзімай, Літвою.
Справа не церпіць. Дарэмна ваганне.
З гневам і жалем ён крыкнуў: "Мой пане,
Бог не папусціць такога, не веру...
Брат супраць брата узніме далоні!..
Вышчарбіў ўчора на немцах сякеру,
Сёння ж навострыць і іх абароніць...
Будзе нам гэткая згода бядою, —
Хочаш з'яднаць ты агонь ды з вадою!
Сусед з суседам, бывае між намі,
Жывучы дрэнна, у крыўдзе спрадвечнай,
Лепшымі робяцца, ўрэшце, сябрамі,
Рукі з'яднаўшы ў пашане сардэчнай.
Горай, хіба, як благія суседзі,
Сёння жыве наш ліцьвін побач з ляхам?
Разам сядзяць на вясёлай бяседзе,
Спяць пад адзіным і небам, і дахам,
Разам, – спатрэбіцца,— меч уздымаюць;
Горай яшчэ, як ліцьвіны і ляхі
Сэрца адно да аднога не маюць,
Ворагі вечныя – людзі й вужакі.
А прыпаўзе гад да хаты парога,
Госцем запрошаны да чалавека,
Дзеля хвалы несмяротнага бога,—
Прыме ліцьвін яго хлебам і млекам.
Гад той рахманы да рук падпаўзае,
Разам вячэрае, п'е без прыгоды,
Грудзі малога не раз спавівае
Бронзавым колцам, без жаднае шкоды.

Толькі крыжацкага гада не ўлашчыць.
Мала яму ўсіх багаццяў нямецкіх,
Колькі людзей і зямель мазавецкіх
Згінула ў прагнай, бязлітаснай пашчы.
Столькі жарэ, а галодны да смерці!
Нашыя рэшткі гатоў ён пажэрці.
Едпасцю толькі пазбавімся катаў,
А паасобку іх сілы не знішчыць.
Замкі руйнуем іх на папялішчы,
Ордэн жа, нібы дракон той пракляты:
Сцяць галаву не паспееш - другая,
Трэцяя. Сотая ўжо адрастае!
Кончым дракона! Дарэмны патугі
Тых, хто нас хоча мірыць з крыжакамі,
Бо, ці то князь, ці то князевы слугі,- -
Цяжка такога знайсці паміж намі.
Хто не жадаў бы любою цаною
Скончыць з праклятай крыжацкай чумою.
Што не кажы, лепей смерць у палоне.
Або на полі, як іх дапамога;
Лепей гарачы свінец на далоні,
Чым гэты поціск рук ворага злога!

Вітаўт нам грозіць? Хіба без іх меча
Самі мы не разбяром сваёй звады?
Ці так далёка зайшлі мы у спрэчках,
Што і рука нашай братняй спагады
Вырваць не здолее кукалю з нівы,
Меч захаваўшы для ворагаў хціўых?

Сам ты ці верыш ва ўласныя словы,
Быццам бы Вітаўт таемна і ўпарта
Здраду рыхтуе і нішчыць умовы?
Слухай, паслаць мяне зноў туды варта.
Зробім умовы…" - " Эт, досыць, Рымвідзе!
Ведаю Вітаўта я і умовы!
Сёння адно ў галаву яму прыйдзе,
Заўтра ж надумае ход адмысловы.
Княжаму слову ўчора я верыў,
Быццам ён Ліду мне дасць назаўсёды;
Сёння ж у князя не тыя намеры,
Робіць мне Вітаўт ізноў перашкоды:
Зручны для гэтага момант абраўшы,
З войскам сваім каля Вільні дзесь стаўшы,
Чутку пусціў ён, нібыта лідзяне
Князем прызнаць мяне не захацелі;
Сам сябе Лідаю Вітаўт надзеліць,
А Літавор з яго ласкі дастане
Голую Русь ці Варага на багне.
Край гэты ўбогі ён мне пакідае,
Вось чаму й крэўных адтуль выбівае,
Вітаўт быць князем Літвы ўсяе прагне.
Бач, як разважыў! Умее разважыць!
Мкнецца да мэты любымі шляхамі—
Сам над усімі хацеў бы ён княжыць,
Роўных сабе - растаптаць пад нагамі.

З Вітаўта ласкі пакутуюць людзі.
З бітвы на бітву і з бою да бою,
Вечна скаваны бранёй нашы грудзі,
Вечна Літва - на каня ды за зброю;
У шышакі ўжо чалом ураслі мы;
Свет—як вялік - навакол абышлі мы;
На крыжакоў, ці праз Татраў грамаддзе,
Рушым на Польшчы прыгожыя сёлы,
Далей па стэпе, з вятрамі у ладзе,
Нішчым, дагнаўшы, абозы Магола.
Скарбы-ж, багацце, што ў замках забралі,
Люд, што дабіць было шабляй турботна,
Тых, што праз голад, агонь не прапалі -
Зносім яму і зганяем ахвотна.
Князю карысь, а Літва ўсё гібее;
З Фінскай затокі да мора Хазараў -
Скрозь гарады загарнуў пад сябе ён.
Мае палац, а палац, нібы мара!
Бачыў шмат замкаў крыжацкіх адменных,—
Прусы на іх і не глянуць без страху,—
Але мацнейшыя ў Вітаўта сцены
Замка, што ў Вільні, і трокскага гмаху.
Ёсць каля Коўна такая даліна -
Сцелюць русалкі там дзіўнае квецце,
Летняй парою і веснай гадзінай,
Тая даліна найлепшая ў свеце.
Нельга даць веры: ў Кейстутава сына
На дыванах - болей кветак адменных.
Ззяе палац. Аксамітнай тканінай,
Бісерам шытай, аздоблены сцены.
Нібы жывы, кожны ўзор, і гамоняць
З золата, срэбра і перлаў расліны;
Скажаш, што іх вышывалі багіні,
А не ўмелыя рукі палонніц!
Шклом дзіўна кожнае зззяе аконца,
Ззяе, як рыцараў польскіх убранне,
Альбо як Нёман, убачыўшы сонца,
Гляне з-пад крыгаў у веснае ранне.

А я, што маю за кроў і за раны?
Я, што ў дзяцінстве далёкім і мілым,
Ледзьве з калыскі ад маці забраны,
Жыў, як татарын той, млекам кабылім.
Дзень цэлы конна… мне конская грыва
Ноччу падушку сабой замяняла,
Хмаркаю ноч пралятала імклівa,
Раніцай зноў нас труба заклікала.
Гэта тады, як мае аднагодкі
Ездзілі верхам на конях з лучыны,
Смех выклікаючы ў матак салодкі
З гэтых васнных забавак дзяціных.
Гнаўся ў той час за ардой я па пятах,
Або з палякамі біўся зацята.
Княству майму, ад Эрдвіла гадзіны,
Нават і пядзі зямлі не прыдбана;
Глянь ты на сцены… Не сцены - руіны.
Глянь на палацы, як ўсё занядбана;
Або зірні, як пакоямі пойдзеш:
Дзе кубкі шкляныя? Посуд каштоўны?
Знойдзеш там золата? Камень там знойдзеш.
Ёсць дываны там?—Мох клоччам няроўным.
Што-ж здабываў я ў бойках крывавых?
Скарбы?..Уладу?.. Не, толькі здань славы.
Здань толькі. Вітаўт у гым вінаваты,

Вітаўт забраў маю славу. Размова
Толькі аб ім. Вайдэлоты на святах
Славяць яго, як другога Міндова.
На струнах звонкіх цудоўнае песні
Вітаўта дойдзе да нашчадкаў імя.
Але хто ж нашы ў забыцці і плесні
Знойдзе імёны і ў прышласць узніме?

Мы не зайздросцім. Няхай сабе з бою
Скарбы бярэ і імя здабывае,
Толькі няхай капцюры над Літвою
Вітаўт драпежныя не ўздымае.
А ці даўно, у час спакою і згоды,
Гвалтам літоўская ўзята сталіца?
Іншых князёў разарыўшы паходам,
Сына Альгерда прымусіў скарыцца,
Трон яго сам ён сягоння займае,
Нават пасол яго словам суровым.
Нібы Крывейта, князёў прызначае
Або зганяе без лішняй размовы.
Досыць свае падстаўлялі мы спіны,
Покуль ёсць сілы і дыхаюць грудзі,
Покуль жалеза рук дужых не трудзіць,
Покуль мой конь мае лёт сакаліны...
Гэткага ж даў і табе, — конік слаўны,—
Іх я быў з Крыму прывёў, як здабычу,
Дзесяць нягоршых я маю на стайні,
Іх маім слугам адданым узычу...
Покуль і конь мой... І шабля са мною!.."
Тут не хапіла ад гнеpower дыхання,
Змоўк, толькі грымнула княжая зброя,
Бо здрыгануўся, відаць, з хваляванння.
Але што гэта, святлом вокамгненным,
Бліснула над галавой яго знічам,
Твар асвятліўшы на міг ваяўнічы?
Шаблі лязом ды па гзымсе каменным
Біў Літавор, выкрасаючы іскры;
Сталі узмах быў маланкава быстры.

Зноў абняло іх глухое маўчанне.
Зноў князь сказаў: "Годзе марнай размовы,
Ноч адыходзіць і дзень хутка новы...
Зараз пачуем мы пеўняў пяянне.
Ты зразумеў мой загад? Будзь гатовы...
Лягу. Крыху адпачну я душою
Змучанай, целам... і ўстану здаровы.
Тры дні не спаў я дарогай цяжкою.
Цёмна, ды месяц праблісвуць павінен,
Рушым якраз каля ранняй гадзіны...
Сыну Кейстута мы ў Лідзе пакінем
Добрую спадчыну – попел, руіны!"
Скончыўшы, пляснуў у далоні што сілы.
Чэлядзь ўзяла яго латы і зброю.
Лёг не таму, што быў сон яму мілы,—
Прагнуў, каб Рымвід пакінуў пакоі.
Рымвід падумаў: дарэмна размова!
Зараз жа выйшаў без лішняга слова.
Выйшаў і выканаў спраўна інтэрас;
Рыцараў склікаў, паведаў загад ім,
Потым у замак вярнуўся яшчэ раз...
Да Літавора? Для новай парады?

Не, не да князя. Пакой князеў цёмны
Рымвід, улева падаўшыся, збочыў,
Дзе перакінуты мост быў пад'ёмны,
І ў пакоі княгіні пакрочыў.

Князевай жонкай была той парою
Лідскага князя дачка маладая.
За прыгажосць у надпёманскім краі
Звалі Гражыну князёўнай-зарою.
Хаця ж з гадамі з зарой-заранiцай
Не параўнаеш княгіні Гражыны,
Але яднала ў сябе чараўніца
Вабнасць кабеты і свежасць дзяўчыны.
Здзівіць развагай, крапе маладосцю,
Быццам бы май увасобіўся ў леце,
Быццам бы кветкі, вясновыя госці,
З плодам даспелым, духмяным на вецці...

Ці толькі з твару прыгожа Гражына?
Роўных сабе ні ў чым іншым не знала;
Станам, і ростам, і спрытам княгіня
Нават і мужу свайму не ўступала.
Там, дзе абое прыгожыя ў коле
Чэлядзі, шляхты дваровай стаялі,—
Былі падобны да гонкіх таполяў,
Што найвышэй свае кроны ўзнімалі.

З твару падобна да мужа нямала,
Сэрцам таксама нагадвала мужа.
Верацяпом ці іглой пагарджала,
Але затое любіла аружжа.
Часта на добрым кані выязджала
У шорсткім са шкуры мядзведжай убранні
І па лясах, па дубровах скакала
Да позняй ночы, да самага рання.
Часам, калі пад мужчынскім уборам
З лесу вярталася, дзе палявала,—
Блытала чэлядзь яе з Літаворам,
І, нібы князя, Гражыну прыймала.

Так спалучаючы працу й забаву,—
Радасць, ці смутак, ці злая навала,—
З мужам не сэрца адно падзяляла,
Але і мыслі, і княжую справу.
Суд ці вайна, ці таемная змова
Часта яе вырашалася словам.
Іншым было не ўсё гэта вядома.
Была не такой, як бываюць кабеты,
Што рады ўладзе над мужам і домам
І на ўвесь свет выхваляюцца гэтым.
Спрытна хавала ад лішняга вока
Тое, як сэрцам валодала мужа,
Нават і тыя, што бачаць глыбока,
Цямілі гэтую справу не дужа.

Рымвід адчуў, дзе шукаць яму раду,
Каб і людзям быць, і князю не ў крыўдзе,
Ведаў, калі да княгіні ён прыйдзе,
Знойдзе увагу і знойдзе спагаду.
Так і зрабіў, расказаўшы ёй ціха,
Што Літаворам задумана ліха.

Вестку Гражына з трывогай прымае,
Але ўмее валодаць сабою,—
Выгляд зрабіла, што веры не мае—
Голас і твар не згубілі спакою.
"Хіба ж у князя,— сказала,—больш варты
Словы жанчыны, як рыцара слова?
Ведаю, ён і гарачы, і ўпарты—
Скажа і зробіць так адначасова.
Але, нарэшце, калі хваля гневу
Буру не ў час у душы яго ўзбудзіць
І калі ён, памыліўшыся, зблудзіць
Між дрэва праўды і прагнасці дрэва,—
Кінем, хай час і развагі павевы
Мыслі раз'ясняць і сэрца астудзяць.
Кане ў нябыт яго злосць і ўпартасць...
Сябе ды й іншых палохаць не варта".
" Прабач, княгіня, бо гэта не слова,
Што, з вуснаў чорнай зляцеўшы гадзінай,
Чэзне без следу ў памяці сховах;
Нельга назваць яго і блытанінай
Марных жаданняў. Капрызаў чарговых,
Што, як туман, закурыцца і згіне.
Слова, як іскра—што ўспыхвае поччу.
Бачу я іскру і гора прарочу!

Не першы дзень я пры князі слугою.
Шмат год служыў яму шчыра, аддана,
Ды не згадаю, ці чуў я парою
Гэткае шчырае слова ад пана.
Што мне належыць—зраблю я: да бою
Войска збяру, як было загадана,
Ля Перасека магілы, і ўранні
Рушым дарогай пры месяца ззянні".

"Што чую! Заўтра? Бяда мне і гора!
Гэтага знаць на Літве не павінны,
Што брат на брата ўзняў зброю на сорам,
І з-за чаго? З-за пасагу Гражыны!
Зараз іду я ў пакой Літавора,
Хоць для спаткання мінулі гадзіны.
Перш, чымся неба зарой закрасуе,
Веру, што добры адказ прынясу я".

Потым яны, развітаўшыся, выйшлі.
Дужа спяшаліся дзесьці абое.
Хвілі ў святліцы не бавячы лішняй,
Крочыць княгіня да князя ў пакоі.
Рымвід туды ж крок кіруе увішна,
Вось да дзвярэй дакрануўся рукою,
Ды не ўвайшоў, на парог ён сядае—
Слухае, ў шчыліну ўсё пазглядае.
Бразнула клямка. І ў цягу хвіліны
Постаць стаяла нярушная ў белі.
"Хто?" - крыкнуў князь і сарваўся з пасцелі.
"Хто?" –"Я". - Адказвае голас жанчыны.
І то гучней галасы, то нямелі.
Рымвід з размовы не чуў палавіны—
Словы, змяшаўшыся з рэхам імгненным,
Біліся глуха ў каменныя сцены.
Словы то гучна імкнуць разздавана,
То ледзьве-ледзьве даходзяць да слыху.
Голас Гражыны гучыць ўсхвалявана,
Кпіны у голасе князя і пыха.
Вось яна кленчыць, бядою прыгбана...
Ўстаў Літавор, і зрабілася ціха.
Потым ён нешта сказаў ёй сурова
І замаўчаў. Не знаходзячы слова.
Вось прамільгнула зноў постаць у белым,
Крочыць к парогу, выходзіць жанчына.
Ці не ўпрасіла, а ці не пасмела,
Болей прасіць? У пакой свой Гражына
Накіравалася. Князь да пасцелі
Моўчкі прыпаў. Няймаверная ціша,
Мусіць, яна Літавора ўкалыша.
Рымвід хвіліну якую вагаўся,
Потым пайшоў і на левым балконе
Служку пабачыў, што з немцам спрачаўся.
Слухаў, да вуха прыклаўшы далоню,
Але не чутна, бо вецер узняўся.
Служка рукою паказваў на коні;
Рымвід не ўцяміў, хутчэй здагадаўся.
Кроўю набеглі ў рыцара вочы—
Збег да каня і ў сядло ён ускочыў:
"О, каб не быў я паслом тут сягоння,
Крыжам клянуся на комтурскім сцягу,
Я б даказаў вам, што меч у далоні
Маю не дарма, сваёй помсты прагу
Я б задаволіў і змыў бы знявагу.
Ні ў імператара, ні ў слуг ягоных
Не стрэў таго я, што тут, у паўпанка:
Пад голым небам дачакацца ранка
І прэч пайсці і бачыць слуг ухмылкі...
Толькі князёк, відавочна, не цяміць,
Што ён павінен плаціць за памылкі,
Кліча на Вітаўта гэты паганец,
Каб разам знішчыць. Ды нас не падманіць!
Вітаўт і той не заслоніць сабою
Меч, што вісіць над яго галавою.

Скажаш так князю, а веры не будзе—
Сам хай спытаецца, нават хачу я
Ўласна яму паўтарыць, сам пачуе,
Што я кажу і няхай не забудзе:
Рыцара слова ці рыцара ўмова
Век не парушна, як божае слова.
Яма, якую для нас вы капалі,
Вам жа самім абярнецца на шкоду:
Сёння ж, глядзіце, ў яе каб не ўпалі.
Я кажу—Дытрых Гальштарх фон Кніпродэ,
Комтур! Гэй, кнехты, за мной паскакалі!"

Перачакаў і да брамы прыскочыў,
Кнехты за ім. Вось па полі ўжо гоняць.
Толькі чуваць—дзесьці зброя бразгоча,
Толькі чуваць, як падкова дзесь звоніць,
Толькі чуваць—заіржалі дзесь коні...
Хутка замерла ўсё ў цемрадзі ночы,
Лес толькі цёмны ўслед ім гамоніць.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*



**Царква ў Радзівонішках.** *Здымак Уладзіміра Хрышчановіча.*

